



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

11 чэрвеня 2021 года №24 (1363) 18+


# Махляры скралі з карткі маладзечанкі чатырыста рублёў

## Але на гэты раз не з дапамогай тэлефоннага званка

старонка 3

Калаж Ігара ПАЛЫНСКАГА.



**У Крэўскім замку знайшлі і закансервавалі рэшткі невядомага раней будынка 14 стагоддзя**

старонка 2

**Працавала з брыльянтамі і ў банку, стала рабіць перманентны макіяж.** Што раздражняе майстра са сферы прыгажосці і як стаць ідэальным кліентам

старонка 20

**Гэтыя птушкі і грызуны амаль цалкам зніклі ў Беларусі**

старонка 8

**У Маладзечанскім раёне загінуў аднагадовы хлопчык**

старонка 4

**Кранальны «Таршэр» разам з Ірынай Тархан**

старонка 19

ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# У Крэўскім замку закансервавалі муроўку будынка 14 стагоддзя

## Рэшткі невядомай пабудовы навукоўцы знайшлі ў мінулым сезоне

СМАРГОНЬ

**Рэстаўратары, што працуюць у Крэўскім замку, закансервавалі муроўку невядомага старадаўняга будынка, які знайшлі мінулым летам.**

Як знайшоўся будынак, пра які раней не было вядома, нам расказаў гісторык, навуковец, кіраўнік археалагічных экспедыцый у Крэве **Алег Дзярновіч**.

– У чэрвені 2020 года з боку ўсходняга кута Крэўскага замка зладзілі тэхнічны праезд на тэрыторыю будаўнічай пляцоўкі. У сувязі з гэтым разабралі завал з будаўнічага друзу каля ўсходняга кута. Гэтыя працы раскрылі ніжнюю частку паўночна-ўсходняй сцяны замка. На каменнай муроўцы сцяны заўважылі ўчастак цаглянай муроўкі, што з'яўляецца досыць нетыповай сітуацыяй для Крэўскага замка, таму што асноўным будаўнічым матэрыялам замка быў камень, у тым ліку і валуны. Цэгла ж выкарыстоўвалася толькі пры муроўцы канструкцыйна важных элементаў – арак, аконных праёмаў, тунэляў-калідораў, кутоў вежы.

Па яго словах, выяўленне невядомага ўчастка цаглянай муроўкі паставіла новыя даследчыя задачы. Таму спецыялісты ўздоўж гэтага ўчастка сцяны заклалі археалагічную траншэю і два шурфы – невялікія раскопы. Даследаваўшы рэшткі невядомага будынка, навукоўца робіць наступныя высновы:

1. Цэгла ў муроўцы і раскопе падобная да той, з якой рабілі асноўныя цагляныя элементы замка 14 стагоддзя.

2. У раскопах заходняй і ўсходняй муроўкі на сцяне знайшлі падмуркі будынка. Заходні падмурак добра захаваўся, змацаваны вапнавай рошчынай і мае перавязку са сцяной замка. Даўжыня будынка ўздоўж сцяны – восем з паловай метраў.

Згодна з гэтымі высновамі, Алег адзначае, што знойдзены будынак з'явіўся ў 14 стагоддзі – у часы пабудовы і перабудовы замка.

Акрамя старадаўняй цэглы, у раскопе знайшлі фрагменты керамічнага посуду 14-16 стагоддзяў. А яшчэ рэчы статуснага характару: разныя вырабы з косці і пражскі грош 14 стагоддзя. Улічваючы гэтыя знаходкі, навукоўца мяркуе, што ў будынку з абарончай функцыяй маглі быць палаты для прыёму. Бо жылі на дзядзінцы ў драўляных пабудовах.

– А яшчэ пры раскопках падмурка знайшлі плітку падлогі. Гэта мае практычную каштоўнасць для рэстаўрацыі Крэўскага замка, – адзначыў навуковец.

Па словах Алега, уся гэта сітуацыя – добры прыклад таго, як праекціроўшчыкі «Белрэстаўрацыі» могуць уносіць карэктывы ў праект па выніках новых даследаванняў.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечанае Алегам ДЗЯРНОВІЧАМ.

Рэшткі невядомага цаглянага будынка ў мураванай сцяне.



А так выглядае закансерваваная сцяна.

Кансервацыя руін – комплекс мер, накіраваны на стабілізацыю фізічнага стану руін і захаванне рэштак збудаванняў, якія дайшлі да нашых дзён ва ўжо разбураным выглядзе і ў такім выглядзе ўспрынятых як помнікі. Кансервацыя руін прадугледжвае ачыстку прадметаў ад забруджання, агульнае ўмацаванне і ўмацаванне слаёў, калі яны ёсць, стабілізацыю, фарміраванне ахоўнай паверхні, забеспячэнне захаванасці, доўгатэрміновую абарону ад вільгаці, перападаў тэмпературы, святла, механічных пашкоджанняў.

## Ладзяць дзіцячы пленэр імя Нікадзіма Сілівановіча

ВІЛЕЙКА

Пра гэта расказала дырэктар Вілейскага краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**.

– Пленэр стаў ужо традыцыйным. Рассылаем палажэнне па школах Вілейкі і раёна і запрашаем юных мастакоў да ўдзелу. Цяпер праходзіць завочны этап пленэру – дзеці працуюць у сябе, на месцах. Пасля будзе вочны этап. У рамках яго мы сустрэнемся і зладзім экскурсію па памятных месцах Вілейшчыны. Наведаем партызанскую базу ў Лясках, з'ездзім да помніка Нікадзіму Сілівановічу, – паведаміла дырэктар.

У сёлетнім пленэры ўдзельнічае 28 чалавек. Урачыстае закрыццё з выставай карцін зладзяць 17 чэрвеня.

Нікадзім Сілівановіч (1834 – 1918 ці 1919), беларускі і расійскі мастак, акадэмік Пецярбургскай акадэміі мастацтваў. У Маладзечне атрымаў агульную адукацыю ў павятовым пяцікласным вучылішчы для дваран. У 1859 годзе паступіў у Пецярбургскую Імператарскую акадэмію мастацтваў, дзе пісаў партрэты. Праз чатыры гады Сілівановіч атрымаў званне вольнага мастака, пасля чаго вярнуўся ў родную вёску. Пачаў займацца царкоўным жывапісам. Таленавітага мастака заўважыў Брулоў, які і прапанаваў Сілівановічу прыняць удзел у стварэнні мазаікі «Тайная вячэра» ў галоўным іканастасе Ісакіеўскага сабора ў Пецярбургу. Карціны мастака знаходзяцца па ўсім свеце. Толькі адна з іх – «Салдат з хлопчыкам» – у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Гімназістка перамагла ў абласным трэвел-праекце «Сямейны дыліжанс»

ВІЛЕЙКА

На працягу 2020/2021 навучальнага года на Міншчыне ладзілі трэвел-праект, удзельнікамі якога сталі сямейныя калектывы навучэнцаў пры інфармацыйна-метадычнай падтрымцы педагогаў устаноў адукацыі.

У рамках праекта навучэнцы ладзілі сямейныя экспедыцыі, турпаходы, ездзілі на экскурсіі, запаўнялі дзённікі вандроўніка, удзельнічалі ў стварэнні сямейных творчых прац.

У намінацыі «Альбом вандроўніка» ў катэгорыі «Фотанататкі» дыпломам першай ступені заваявала **Яна Пятніцкая**, навучэнка 10 класа вілейскай гімназіі №1 «Логас», паведамляюць у аддзеле адукацыі, спорту і турызму Вілейскага райвыканкама.

Кіраўнікі **Алена Пятніцкая**, педагог-псіхолаг, і **Аксана Максімовіч**, намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце.

**Аддзел інфармацыі.**

## У ліпені ладзяць раскопкі ў вёсцы Гуры

ВІЛЕЙКА

Ад 8 да 30 ліпеня плануюць сумесную археалагічную экспедыцыю Міжнароднага дзяржаўнага экалагічнага інстытута імя Сахарава, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту. Дзейнасць экспедыцыі будзе скіраваная на даследаванні селішча і могільніка Гуры Вілейскага раёна (другая палова I тысячагоддзя нашай эры).

Апошні раз тут капалі ў 1971 годзе, паведамляюць арганізатары. У дадатак, плануюць даследаванні могільніка Камена ў тым жа раёне, які датуецца канцом I тысячагоддзя нашай эры – 12 стагоддзе.

Кіраўнікі – **Мікалай Плавінскі** і **Вікторыя Макоўская**.

Удзельнікаў чакае:

- жыццё ў кемпінгу на беразе ракі Сэрвач;
- сняданкі, абеды і вячэры, прыгатаваныя на вогнішчы;
- інтэнсіўныя раскопкі курганчыкаў, насыпаных са слою селішча. Знаходкі могуць быць паўсюль.

**Аддзел інфармацыі.**



У маладзечанкі з карткі зніклі грошы.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**921**

столькі помнікаў прыроды ў Беларусі.

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 3.06 | 10.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5383 | **2.5007** |
| Еўра | 3.0950 | **3.0465** |
| Злоты, 10 | 6.9196 | **6.8424** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4547 | **3.4694** |
| Грыўня, 100 | 9.2819 | **9.2334** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | 3.06 | 10.06 |
| Еўра | 3.0500/3.1400 | **3.0000/3.0900** |
| Долар ЗША | 2.5000/2.5700 | **2.4700/2.5350** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 2.06 | 9.06 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 24,93 | **24,93** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 4,40 | **3,90** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,00 | **9,00** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Селядзец, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 18,90 | **18,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,30 | **2,30** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 4,90 | **4,90** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | **4,80** |
| Маянэз, 400 г | 2,60 | **2,60** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 2,00 | **2,00** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,40 | **2,40** |
| Агуркі, 1 кг | 2,50 | **2,30** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,00 | **5,50** |
| Бульба маладая, 1 кг | 2,60 | **2,40** |
| Буракі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста маладая, 1 кг | 1,80 | **1,70** |
| Морква, 1 кг | 1,40 | **1,40** |
| Памідоры, 1 кг | 3,80 | **3,50** |
| Перац, 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Радыс, 1 кг | 2,00 | **2,00** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,40 | **1,40** |
| Часнок, 1 кг | 7,50 | **7,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,90 | **5,50** |
| Абрыкосы, 1 кг | 7,50 | **7,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Бананы, 1 кг | 3,50 | **3,80** |
| Вінаград, 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Грушы, 1 кг | 6,50 | **5,50** |
| Кавуны, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Клубніцы, 1 кг | 10,00 | **10,00** |
| Лімоны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Нектарыны, 1 кг | 8,00 | **7,00** |
| Чарэшні, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Масла, 1 кг | 18,00 | **18,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

# Махляры скралі з карткі маладзечанкі чатырыста рублёў

## Але на гэты раз не з дапамогай тэлефоннага званка

МАЛАДЗЕЧНА

**– У канцы навучальнага года захацелі з жонкай праверыць, ці ёсць грошы на рахунку за школьнае харчаванне дачкі, а ў выніку страцілі чатырыста рублёў, – з такой гісторыяй звярнуўся да нас маладзечанец Пётр.**

### Рабілі ўсё, як заўсёды. Але страцілі грошы

Мужчына патлумачыў, што 30 мая яны паспрабавалі ўвайсці ў інтэрнэт-банкінг па картцы «Беларусбанка». Рабілі ўсё, як заўсёды. Увялі лагін, пароль. Але старонка доўга грузілася, а надпіс на маніторы прасіў пачакаць. Пасля чарговай спробы з'явіўся надпіс «Увядзіце праверачны код». Муж з жонкай яшчэ некалькі разоў паспрабавалі і кінулі, бо нічога не атрымлівалася. Але пасля гэтага жанчыне на мабільны тэлефон прыйшло паведамленне, што з рахунка спісана 400 рублёў.

– Пачалі тэлефанаваць у сэрвісныя службы, але было ўжо позна, ніхто не адказваў, – прыгадвае Пётр. – Пасля пайшлі ў банк. Там нас выслухалі, абяцалі правесці ўнутранае расследаванне і ў той жа дзень высветлілі, што 400 рублёў з нашай карткі перавялі на рахунак у банку «Рашэнне», – прыгадвае маладзечанец.

Як такое магло здарыцца? З афіцыйным запытам мы звярнуліся ў «Беларусбанк».

### Беларусбанк: Прычына – фішынгавая спасылка

У разліковым цэнтры плацежных картак «Беларусбанка» расказалі, што асноўнай прычынай падобных сітуацый з'яўляецца ўваход у сістэму інтэрнэт-банкінг па фішынгавай спасылцы. Уладальнік рахунка набірае ў пошукавай сістэме запыты тыпу «інтэрнэт-банкінг Беларусбанка» і пераходзіць па спасылках, якія часта з'яўляюцца падобнымі да афіцыйнай старонкі інтэрнэт-банкінга банка. Далей кліент, уводзячы дадзеныя для ўваходу ў асабісты кабінет (лагін, пароль, код з карты кодаў, альбо аднаразовы смс-код), перадае канфідэнцыйныя дадзеныя махлярам, якія ўваходзяць пасля ў сапраўдны асабісты кабінет інтэрнэт-банкінга.

Для прадухілення крадзяжу з карткі спецыялісты банка рэкамендуюць:

- не паведамляць нікому ніякіх звестак пра рэквізіты карткі, СМС-коды, што прыходзяць на мабільны тэлефон, лагін і пароль для ўваходу ў сістэму інтэрнэт-банкінг. Работнікам банка таксама нічога з гэтых дадзеных не паведамляць;
- для бяспечнага ўваходу ў сістэму інтэрнэт-банкінг неабходна ў адрасным радку інтэрнэт-браўзера набраць: **https://ibank.asb.by** альбо адрас карпаратыўнага вэб-сайта банка: **https://belarusbank.by/** і перайсці па спасылцы «Інтэрнэт-банкінг». У акне браўзера павінны быць малюнак, які пазначае, што злучэнне абароненае. Малюнак адрозніваецца ў залежнасці ад браўзера. Напрыклад, у браўзеры Microsoft Internet Explorer у правай частцы адраснага радка размяшчаецца жоўты замочак, а ў Mozilla Firefox – зялёны замочак;
- падключыць паслугу смс-абвесткі аб расходных аперацыях. Гэта дазволіць кліентам апаратыўна заблакаваць картку, калі будуць адбывацца несанкцыянаваныя аперацыі;
- выкарыстоўваць кіраванне персанальнымі лімітамі па аперацыях з карткай. Кіраваць лімітамі па картках банка можна з асабістага кабінета кліента сістэмы інтэрнэт-банкінг. Карыстальніку неабходна ўвайсці ва ўкладку «Рахункі» і далей «Рахункі з карткай» – «Дадатковыя паслугі» – «Ліміты па картках»;
- выкарыстоўваючы сістэму інтэрнэт-банкінг, важна ўстанавіць антывірусную абарону, своечасова абнаўляць базу дадзеных вірусаў.

Калі трымальнік карткі стаў ахвярай махлярства, то неабходна абавязкова змяніць пароль у асабістым кабінеце інтэрнэт-банкінга, заблакаваць картку (карткі) і звярнуцца з заявай у міліцыю. Таксама неабходна звярнуцца ў банк для перавыпуску карткі.

Для інфармавання кліентаў пра бяспечнае выкарыстанне фінансавых інструментаў на карпаратыўным сайце банка ёсць рэкамендацыі па бяспечнай працы ў сістэмах інтэрнэт-, М-, Кліент-банк (WEB), якія ўключаюць:

- «Памятку па бяспечнай працы ў каналах дыстанцыйнага банкаўскага абслугоўвання»;
- «Правілы бяспечнага выкарыстання банкаўскай аплатнай карткі пры правядзенні аперацый у сетцы інтэрнэт»;
- «Правілы бяспекі пры карыстанні сэрвісам інтэрнэт-банкінг»;
- памятку «Бяспечнае выкарыстанне карткі»;
- «Асноўныя правілы бяспекі пры выкарыстанні карткі (сэрвісу М-банкінг, сістэмы інтэрнэт-банкінг)» і рэкамендацыі, што рабіць пры ашуканскіх дзеяннях.

Аналагічныя праблемы могуць здарыцца таксама ў кліентаў іншых банкаў. Таму трэба заўсёды быць пільнымі.

Фішынг – від інтэрнэт-махлярства, мэтай якога з'яўляецца атрыманне доступу да канфідэнцыйных дадзеных карыстальнікаў. Пасля таго, як карыстальнік трапляе на падробленую старонку, ашуканцы спрабуюць рознымі прыёмамі заахвоціць карыстальніка ўвесці на падробленай старонцы свае лагін і пароль, якія ён выкарыстоўвае для доступу да вызначанага сайта, што дазваляе ашуканцам атрымаць доступ да акаўнтаў і банкаўскіх рахункаў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

## Пашкодзілі інсталяцыю са сцягамі

**АШМЯНЫ**

Раніцай 31 мая ў гарадскім парку Ашмянаў мінакі ўбачылі раскіданыя чырвоныя і зялёныя сцягі з паламанымі дрэўкамі. Усяго каля 50 штук. Тады па факце хуліганства следчыя пачалі крымінальную справу, а аператыўнікі за некалькі дзён знайшлі датычных.

Высветлілася, што двое жыхароў Ашмянаў 28 і 32 гадоў у парку ўбачылі дэкаратыўныя канструкцыі, з якіх сталі выдзіраць сцягі, ламаць і кідаць іх на зямлю.

Дзеянням маладых людзей далі прававую ацэнку – яны прызнаныя падазраванымі па крымінальнай справе.

Шкода гарадской гаспадарцы склала больш за 370 рублёў.

Па матэрыялах следства, фігуранты былі нецвярозыя.

**Паводле МУС.**

## Асудзілі на пяць год дамашняй «хіміі» за захоўванне пораху

**СМАРГОНЬ**

Смаргонскі суд асудзіў мужчыну на пяць год абмежавання волі за захоўванне пораху.

У 2009 годзе абвінавачаны меў дазвол на захоўванне і нашэнне зброі. У тым годзе ў адным з дамоў у вёсцы на Смаргоншчыне ён знайшоў у канапе чатыры металічныя ёмістасці, у якіх знаходзілася не менш за 211,31 грама бяздымнага пораху. Пасля мужчына незаконна купіў дзве ёмістасці з 400 грамамі бяздымнага пораху.

Порах мужчына захоўваў у сябе ад 2013 да 2021 года, у гэты час ён быў пазбаўлены дазволу на захоўванне і нашэнне зброі. У яго знайшлі шэсць металічных ёмістасцей з 399,53 грамамі пораху. Абвінавачаны цалкам прызнаў віну.

25 мая суд Смаргонскага раёна пастанавіў прызнаць смаргонца вінаватым у незаконным набыцці і захоўванні выбуховых рэчываў, якое здзейснене паўторна. Яму прызначылі пакаранне ў выглядзе дамашняй «хіміі» на пяць год без штрафу. Раней быў судзімы па гэтым жа артыкуле.

**Паводле Гродзенскага абласнога суда.**

## У калекцыянера ўгналі «Жыгулі» 1980 года выпуску

**МАЛАДЗЕЧНА**

У Маладзечанскі РАУС звярнуўся 56-гадовы жыхар сталіцы, уладальнік класічнай «тройкі» – ВАЗ-2103 1980 года выпуску. Мужчына распавёў, што ўначы з двара прыватнага дома ў Беразінскім угналі адноўленыя да «ідэалу» зялёныя «Жыгулі». На месца здарэння неадкладна прыбыла следча-аператыўная група.

Як аказалася, заяўнік вяртае да жыцця старыя аўто і калекцыянуе іх. На лецішчы мужчына арганізаваў экспазіцыю рэтрааўтамабіляў – пад навесам у яго былі прыпаркаваныя чатыры рарытэтныя ўзоры маркі ВАЗ, «Масквіч» і «Мерсэдэс». Аднак раніцай аўтаадматар недалічыўся аднаго экспаната і паведаміў пра гэта ў міліцыю.

**Па словах гаспадара, машына была не зачыненая, паліўны бак запоўнены, а дакументы ляжалі ўнутры.**

Падазраваным аказаўся беспрацоўны 22-гадовы жыхар суседняй вёскі Белыя. Сышчыкі высветлілі меркаваны маршрут руху «Жыгулёў». Спачатку фігурант ехаў па Маладзечанскім і Валожынскім раёнах, а пасля апынуўся ў Мінску. Фінішаваў у сталіцы. Выкрадзены аўтамабіль знайшлі ў раёне Чэрвеньскага рынку. У Валожынскім раёне фігурант на «Жыгулях» учыніў ДТЗ, заехаўшы ў плот прыватнага дома, і з'ехаў.

Падазраванага затрымалі на наступны дзень дома. Малады чалавек прызнаўся ў зробленым. Патлумачыў, што напярэдадні інцыдэнту выпіваў у прыяцеля, дзе ім захацелася атрымаць зарад адрэналіну, скончыўшы застолле паездкай. Транспарт вырашыў «пазычыць» у Беразінскім. Ён яшчэ да гэтага запрыкмеціў там экспазіцыю адноўленых аўто.

**Мужчына, будучы дасведчаным у падобных справах, завёў «тройку» без ключа і паехаў. Калі акумулятар разрадзіўся і машына «закіпела», кіроўца кінуў скрадзены аўтамабіль і знік.**

Цяпер падазраваны ў ІЧУ. Яго дзеянням далі прававую ацэнку.

**Паводле РАУС Маладзечна.**

# Конь уваліўся ў двухметровую яму

## Жывёле дапамаглі выратавальнікі

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Трэцяга чэрвеня каля 12 гадзін у цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС паведамілі, што на ўчастку ў аграгарадку Маркава па вуліцы Кастрычніцкай у яму ўваліўся конь.**

Ратавальнікі неадкладна выехалі да месца выкліку.

**Высветлілася, што жывёла трапіла ў яму глыбінёй каля двух метраў, а яго задняя нога засыпала зямлёй.**



Фота забяспечанае Валянцінай СОПАТ.

Каня ратавалі з дапамогай бульдозера і пажарных рукавоў.

Сіламі МНС каня выратавалі: падчапілі пажарнымі рукавамі і выцягнулі наверх пры дапамозе задзейнічанага бульдозера, распавялі ў ГРАНС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Загінуў аднагадовы хлопчык

## Следчыя праводзяць праверку

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Па дадзеных следства, днём 7 чэрвеня аднагадовае дзіця было з бабуляй і дзядулем у адной з вёсак Маладзечаншчыны.**

Каля 11 раніцы яго паклалі спаць, а праз некаторы час мужчына знайшоў цела ўнука без прыкмет жыцця, паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Мінскай вобласці **Алена Крупеніна**.

– Дзіця сядзела ў ложку, а галава была ў пятлі абутковага шнурка, які мацаваўся да сцяны для ўстойлівасці канструкцыі, – адзначыла афіцыйны прадстаўнік.

**Следчыя агледзелі месца здарэння, апыталі бацькоў і суседзяў, прызначылі судова-медыцынскую экспертызу, вытворчасць якой даручана экспертам УГКСЭ па Мінскай вобласці.**

По факце гібелі дзіцяці маладзечанскія следчыя праводзяць праверку. Сям'я ў сацыяльна небяспечным становішчы не знаходзіцца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота забяспечанае Аленай КРУПЕНІНАЙ.

Ложак, дзе загінула дзіця.

## Жанчына апяклася, калі працавала з газавай гарэлкай

**ВІЛЕЙКА**

7 чэрвеня выратавальнікам паведамілі, што ў бальніцу з апёкамі паступіла 63-гадовая жанчына.

Як стала вядома, апёкі яна атрымала з-за ўспышкі газапаветранай сумесі, калі працавала з газавай гарэлкай у сваім двары ў вёсцы Слабада. Гарэння пасля ўспышкі не было. Прычына здарэння – парушэнне правілаў эксплуатацыі газавых прылад і агрэгатаў.

**Паводле МНС.**

## У пасёлку Партызанскім на пажары загінуў мужчына

**ВІЛЕЙКА**

Смяротны пажар здарыўся ноччу 6 чэрвеня. Выратавальнікам пра яго паведамілі каля трох гадзін.

Гарэла кватэра на другім паверсе двухпавярховага шасціквартэрнага жылога дома на вуліцы Падлеснай.

На пажары выратавальнікі знайшлі труп 61-гадовага мужчыны, які там жыў. Прычыну гібелі і пажару высвятляюць, паведамілі ў прэс-службе МНС.

**Аддзел інфармацыі.**

## У курортным пасёлку Нарач гарэў аўтамабіль

**МЯДЗЕЛ**

7 чэрвеня ў курортным пасёлку Нарач загарэўся аўтамабіль. Пра гэта выратавальнікам паведамілі ў 19:24.

Калі спецыялісты прыехалі на месца, салон машыны БМВ-530 быў задымлены. Выратавальнікі ліквідавалі ўзгаранне.

Агонь паспеў пашкодзіць багажнік. Прычыну пажару высвятляюць, расказала карэспандэнту старшы інспектар сектара ўзаемадзеяння з грамадскасцю цэнтра бяспекі жыццядзейнасці і ўзаемадзеяння з грамадскасцю Мінскага абласнога ўпраўлення МНС *Дыяна Жалязняк*.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Можна – расійскай, а можна – кітайскай

## У Вілейскай ЦРБ вакцыну ад каронавіруса выбірае пацыент

ВІЛЕЙКА

**Пра тое, што ў Вілейскай ЦРБ вакцынуюць расійскай ці кітайскай вакцынамі, карэспандэнту расказала загадчыца паліклінікі Таццяна Рамера.**




Нядаўна ў Вілейскай ЦРБ з'явілася партыя вакцыны «Вера гель» з Кітая. Расійскі «Спутник V» таксама ёсць.

– Абедзве вакцыны аднолькавыя па паказаннях. Імі прышчапляюць людзей, старэйшых за 18 год без вострых захворванняў і без абвастрэння хранічных. Абодва прэпараты – двухфазавыя: адразу ўводзіцца адна доза, а другая – не раней, чым праз 21 дзень. Калі чалавек раптам захварэў у гэты час, другі ўкол можна перанесці максімум на два месяцы, – расказала доктар.

Па яе назіраннях, пабочных эфектаў ні пасля адной вакцыны, ні пасля другой практычна не заўважалі.

– Так, у чалавека можа падняцца тэмпература. Але гэта, хутчэй, не пабочны эфект, а нармальная рэакцыя імуннай сістэмы на вакцынацыю, – адзначыла Таццяна Аляксандраўна. – Прыгадайце, як мы вакцынуем немаўлят: заўсёды папярэджваем бацькоў, што можа быць тэмпература.

Па словах доктара, кітайская вакцына ў параўнанні з расійскай больш зручная для медыкаў. Кітайская захоўваецца пры тэмпературы да плюс 8, расійская – да мінус 18. Таму прэпарат з Кітая зручней перавозіць і выкарыстоўваць.

– Якую вакцыну выбраць, вырашае пацыент. Магчыма, ён больш давярае пэўнаму вытворцу, – падсумавала Таццяна Рамера.

Ахвотным зрабіць прышчэпку трэба звярнуцца без чаргі ў акенца №4 у рэгістратуры. Вакцынуюць ад панядзелка да пятніцы з 8:00 да 17:30, а таксама ў суботу з 8:00 да 14:30. Запісацца на прышчэпку можна і анлайн праз сайт Вілейскай ЦРБ.

Па словах доктара, штодзень на Вілейшчыне супраць каронавіруса вакцынуецца каля ста чалавек.

Таксама паліклініка выдае сертыфікаты аб праходжанні вакцынацыі супраць COVID-19. Па сертыфікат можна звяртацца ў кабінет 505. Каб атрымаць дакумент, з сабой трэба мець медыцынскую карту і пашпарт, а таксама чэк аб аплаце за гэту паслугу. Сертыфікат можа спатрэбіцца для выезду за мяжу. Ён выдаецца на рускай і англійскай мовах і каштуе пяць рублёў.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

## Даследаванне: у большасці выпадкаў кавід уплывае на псіхічнае здароўе

Інфекцыя можа ўздзейнічаць на мозг розным чынам, у тым ліку выклікаць стомленасць і дэпрэсію – прычым гэта больш характэрна для лёгкіх формаў хваробы, чым для цяжкіх.

Згодна з новай працай навукоўцаў, у большасці выпадкаў кавід уплывае на псіхічнае здароўе, і гэты ўплыў часцей сустракаецца ў выпадку лёгкай формы хваробы. Таксама, паводле дадзеных з 215 даследаванняў, у 43% хворых на кавід сустракаецца страта нюху, у 40% – слабасць, у 38% – стомленасць, а ў 37% – страта смаку. Іншыя распаўсюджаныя праявы хваробы ўключаюць у сябе боль у мускулах (25% пацыентаў), дэпрэсію (23%), галаўны боль (21%) і трывожнасць (16%).

Кіраўнік даследавання доктар Джонатан Роджэрс з універсітэцкага каледжа Лондана тлумачыць, што, згодна з чаканнямі навукоўцаў, уплыў кавіду на нервовую сістэму і псіхіку павінны быць больш моцны ў людзей з цяжкай формай хваробы, але некаторыя сімптомы, наадварот, больш праяўляюцца ў лёгкіх выпадках.

Як кажа Роджэрс, «здаецца, што сітуацыі, калі кавід уплывае на псіхічнае здароўе і мозг – гэта, хутчэй, норма, чым выключэнне».

Паралельна з гэтым супрацоўнікі універсітэцкага каледжа Лондана прэзентавалі іншае даследаванне. Яно паказала, што пасля перанесенага кавіду рызыка паўторнага захворвання падае на тэрмін да дзесяці месяцаў, але, тым не менш, некаторыя людзі ўсё-ткі хварэюць раней за гэты тэрмін.

Паводле sky.com.

## У Астравецкай ЦРБ вакцынуюць расійскім прэпаратам

АСТРАВЕЦ

Як паведамляюць у Астравецкай цэнтральнай раённай клінічнай бальніцы, тут праходзіць вакцынацыя супраць інфекцыі COVID-19 расійскай вакцынай «Гам-Ковід-Вак» (Спутник V).

Тут звяртаюць увагу, што вакцынуюць пацыентаў, старэйшых за 18 гадоў. Па словах спецыялістаў, асабліва вакцынацыя рэкамендуецца людзям ва ўзросце 61 год і старэйшым, асобам з хранічнымі захворваннямі, іншым асобам, якія маюць рызыку цяжкага працякання захворвання.

Па пытанні вакцынацыі, а таксама для папярэдняга запісу можна звярнуцца ў тэлефонны цэнтр, які працуе ў ЦРБ, па нумары **(8 015 91) 24-1-54**.

Аддзел інфармацыі.

## Зарэгістравалі новую вакцыну ад каронавіруса

На падставе рашэння камісіі па лекавых сродках Міністэрства аховы здароўя, 3 чэрвеня прынялі рашэнне аб дзяржаўнай рэгістрацыі вакцыны **«Спутник Лайт»**.

Гэта вектарная вакцына для прафілактыкі каронавіруснай інфекцыі, якая выклікаецца вірусам SARS-CoV-2. Тэрмін дзеяння дзяржаўнай рэгістрацыі – адзін год.

Спецыялісты правялі экспертызы, якія дазваляюць ацаніць паказчыкі бяспекі, эфектыўнасці і якасці прэпарата. Вакцына «Спутник Лайт» стварае спецыфічны клетачны і гумаральны імунітэт да віруса SARS CoV-2. Параметры імунагеннасці вакцыны дазваляюць сфарміраваць дастатковы імунны адказ на 28 дзень пасля прышчэпкі. Найбольш выражаны імунны адказ і, адпаведна, эфектыўнасць прымянення дадзенай вакцыны будзе ў асоб з папярэднім імунітэтам да хваробы.

У рамках першых фаз клінічных даследаванняў заўважылі, што ў людзей, якія маюць антыцелы пасля перанесенай інфекцыі COVID-19, у тым ліку ў бессімптомнай форме, адбываецца істотнае нарастанне антыцел на дзясяты дзень пасля прышчэпкі вакцынай.

Прымяненне гэтай вакцыны дазволіць пашырыць аб'ём вакцынацыі і адказаць на высокі запыт у грамадстве на імунную абарону ад COVID-19, а таксама вакцынаваць асоб, якія ўжо перанеслі COVID-19.

У адрозненне ад двухдозавых кітайскай і расійскай вакцын, з якімі цяпер працуюць у паліклініках рэгіёна, «Спутник Лайт» – аднадозавая.

Паводле Міндароўя.

## Вілейская ЦРБ атрымала 50 пульсаксіметраў

ВІЛЕЙКА

Нацыянальны каардынатар мэт устойлівага развіцця і старшыня ЮНІСЕФ у Беларусі **Таня Радачай** перадала пульсаксіметры вілейскім медыкам.

1 чэрвеня яна наведала Вілейку ў межах Міжнароднага дня абароны дзяцей разам з начальнікам Галоўнага ўпраўлення шматбаковай дыпламатыі МЗС **Ірынай Вялічкай**.

Падчас візіту яны сустрэліся з калектывам і адміністрацыяй Вілейскай ЦРБ і перадалі галоўнаму доктару **Ірыне Макаравай** 50 пульсаксіметраў – медыцынскіх прыбораў, якія вызначаюць узровень насычанасці крыві кіслародам.

Паводле Упраўлення аховы здароўя Мінаблвыканкама.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

| | |
|---|---|
| МАЛАДЗЕЧНА | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| АСТРАВЕЦ | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| АШМЯНЫ | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| ВАЛОЖЫН | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| ВІЛЕЙКА | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| МЯДЗЕЛ | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **2-49-65, 2-49-70.** |
| СМАРГОНЬ | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Мазда-626 GF, 1998 г.в., хэтчбэк, па запчастках. Ёсць амаль усё, добры рухавік. Т. (8-025) 6240203.*

• ВАЗ-2110, 2000 г.в., Т. (8-029) 6024397, (8-029) 3075125.

• Мерсэдэс, 1995 г.в., добры стан. Нядорага. Т. (8-029) 5612477 (МТС).

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7555455.*

• Мерсэдэс-123, дызель, можна не на хаду. Т. (8-029) 3702711,(8-029) 7156613.

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дача ў в. Узбалаць Валожынскага с/с. Нядорага. Т. МТС (8-029) 7545587.*

• Дача ў с/т «Магістраль», мядзельскі напрамак, раён в. Лазавец, рублены дом. Т. А1 (8-029) 6243966.*

• 1-пакаёвая кватэра з балконам агульнай плошчай 30,3 кв. м, 5 паверх, у цэнтры Маладзечна па вуліцы Вялікі Гасцінец, 72-а. Т. (8-029) 7672490.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 76, 2 паверх, 47,5/30,9/6,2. Т. (8-029) 8530568, Юра, (8-029) 8658884, Інэса.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС.*

• Дом у в. Слабодка Маладзечанскага раёна, 0,17 га, гараж, лазня, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 7517853 МТС, (8-044) 7533213.*

• Дом у Вілейцы па вул. Стаханаўскай. Газавае ацяпленне, падведзеная халодная вада, гараж, склеп, 15 сотак альбо абмяняю на 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, Маладзечне. Т. (8-029) 8729001 (МТС).

• Дом у Маладзечне па вул. Усходняй. Т. (8-029) 8531242.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### ЗДАМ

• Майстэрню для рамонту аўтамабіляў з абсталяваннем, 90 кв.м. Т. МТС (8-029) 1110707.*

• Памяшканне ў цэнтры Маладзечна, 32 кв.м. Т. (8-029) 5551515.*

### НАЙМУ

• Найму альбо куплю дом у Маладзечне ці раёне. Сучасны дом, газ, ацяпленне абавязкова. Т. (8-029) 7036926, Кацярына.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі да 2 т. ІП Ковель М.Б. УНП 690690062 Т. (8-029) 7647716.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Капцюг Р.П. УНП 692252550. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Дахавыя работы, устаноўка агароджаў пад ключ, укладка тратуарнай пліткі. ІП Смолка М.В. УНП 691185021. Т. (8-044) 7794566.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт тэлевізараў і антэн. Вілейка і Вілейскі раён. ІП Пятрушэвіч А.В.УНП 691182709. Т. (8-029) 5714165 (вайбер).*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 7088846.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усё для даху і агароджы. Маладзечна, вул. Л.-Роменская, 153-а. ІП Барчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-0176) 580400, (8-029) 2345641.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Кухня, стол кухонны фірмы «Явід», тэлевізійная зона, дзіцячая мэбля, 2-ярусны драўляны ложак з матрацамі. Т. (8-029) 6447250.*

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), ровар для двойні або пагодак (40 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Інвалідная каляска для дарослага. Г. Вілейка. Т. (8-025) 7561796.*

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Арматуру, профільную трубу, вугалок, дошку, брус, кроквы. Т. МТС (8-029) 1110707.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-029) 2552321.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Слесар-кузаўшчык для рамонту аўтамабіля. Майстэрня ёсць. Т. МТС (8-029) 1110707.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*



«Рэгіянальная газета» шукае рэкламнага агента

Заробак неабмежаваны і залежыць ад колькасці арганізаванай рэкламы. Калі вы камунікабельныя, умееце падтрымліваць гаворку, настойлівыя і адказныя, то дасылайце свае рэзюмэ на адрас **reklama@rh.by.**

**ПАДАЧА АБ'ЯЎ І РЭКЛАМЫ Ў БЛІЖЭЙШЫ НУМАР** «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ» – **да 16:00 серады.**

Аддзел рэкламы: (8-0176) **53-78-04** (тэл./факс), (8-029) **676-84-20, 573-28-47.** E-mail: **reklama@rh.by.**

# У ліпені ў жыроўках з’явіцца новы радок

## Але плаціць больш мы не станем

**У ліпені ў паведамленнях аб аплаце за жыллёва-камунальныя паслугі з’явіцца радок «Паслуга па кіраванні агульнай маёмасцю сумеснага домаўладання».**

Такую меру ўвялі ад 1 чэрвеня, каб фінансаваць выдаткі дзяржзаказчыкаў за кошт грошай, якія паступаюць як плата за паслугу па кіраванні агульнай маёмасцю сумеснага домаўладання. Паслуга вынесеная ў асобны радок, але яна існавала заўсёды і за яе плацілі як за іншыя паслугі – тэхнічнае абслугоўванне дома і ліфта, вываз смецця.

Плацеж па дадзенай паслузе будзе разлічвацца суразмерна з агульнай плошчай, якая належыць уласніку жылля і нежылых памяшканняў у доме – лесвічных клетак, ліфтаў і іх шахт, падвалаў і гарышчаў, дзіцячых пляцовак, парковак.

Як прававая катэгорыя «Упраўленне агульнай маёмасцю сумеснага домаўладання» – гэта дзейнасць ў мэтах забеспячэння эксплуатацыі агульнай маёмасці сумеснага домаўладання, рэалізацыі ўласнікамі правоў карыстання аб’ектамі нерухомай маёмасці і агульнай маёмасцю сумеснага домаўладання. Згодна з Жыллёвым кодэксам, кіраваць сумесным домаўладаннем можна трыма спосабамі. Удзельнікі сумеснага домаўладання, якое ўключае не больш за дзесяць кватэр, могуць заключыць дагавор сумеснага кіравання. Другі спосаб – стварэнне юрыдычнай асобы, таварыства ўласнікаў або жыллёва-будаўнічага кааператыва.

Калі не выбраныя два папярэднія варыянты, маёмасцю кіруе ўпаўнаважаная асоба, якую прызначыць выканкам. Гэта дзяржзаказчык у галіне ЖКГ, які забяспечвае правы спажыўцоў паслуг на падставе дагавора, у якім вызначаныя правы і абавязкі бакоў па эксплуатацыі агульнай маёмасці дома, прапісаная іншая дзейнасць.

Цяпер на Міншчыне ёсць пяць службаў дзяржзаказчыка. Гэта службы жыллёва-камунальных паслуг Барысаўскага, Маладзечанскага, Слуцкага і Салігорскага раёнаў і Жодзіна. Яны кіруюць агульнай маёмасцю ў гэтых мясцовасцях. У 18 раёнах Мінскай вобласці мясцовым органам кіравання трэба вызначыць упаўнаважаных асоб. Яны абавязаныя прапанаваць спажыўцу заключыць дамову на кіраванне агульнай маёмасцю.

Па дамове адзін бок (упаўнаважаная асоба) па даручэнні іншага (удзельніка сумеснага домаўладання) за плату абавязваецца аказваць сем асноўных і пяць дадатковых паслуг, працаваць на дасягненне мэт кіравання агульнай маёмасцю. Спажыўцу не трэба будзе заключаць некалькі дагавораў на паслугі. Будзе адзін дагавор з упаўнаважанай асобай (служба заказчыка). Выключэнне складаюць толькі паслугі газа-, электра-, водазабеспячэння і водаадвядзення, за якія плацяць па паказаннях індывідуальных лічыльнікаў. Папяровы варыянт дамовы можна атрымаць у офісе разлікова-касавага цэнтра або па месцы знаходжання ўпаўнаважанай асобы. Дагавор будзе лічыцца заключаным з 1 чэрвеня. Адсутнасць дамовы або адмова заключыць яе не вызваляе яго ад платы.

Для таварыстваў уласнікаў нічога не мяняецца. Тут вызначыліся з кіраваннем, калі стварылі юрасобу. Правы і ўзаемаадносіны таварыства ўласнікаў зафіксаваныя статутам, у якім таксама прапісаныя абавязкі бакоў па кіраванні агульнай маёмасцю, а паўнамоцтвы на выбар выканаўцаў жыллёва-камунальных паслуг дэлегаваны органам праўлення і старшыні. Выдаткі па кіраванні агульнай маёмасцю пакрываюцца за кошт членскіх і мэтавых унёскаў.

**Упраўленне кантролю за працай галін гаспадаркі Камітэта дзяржкантролю Мінскай вобласці.**

# Гэтыя птушкі і грызуны амаль цалкам зніклі ў Беларусі

**Ёсць шэраг птушак, жывёл, якія для нашых дзяцей могуць застацца толькі на старонках падручнікаў. Некаторых з іх засталася толькі адна пара на ўсю Беларусь.**



Фота Зайнэля ЧАБЕЧЫ.

Сіваваронка.

Спіс такіх птушак і жывёл склала грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны».

### Сіпуха

Сіпуха – адна з самых прывабных соў на свеце. Цяпер у краіне вядомая толькі адна пара, якая жыве ў Мастоўскім раёне Гродзенскай вобласці.

Галоўныя пагрозы для сіпухі – суровыя зімы і атрутны корм. Праблемы з кормам – а сілкуюцца яны грызунамі – з'явіліся з-за інтэнсіўнага выкарыстання пестыцыдаў у сельскай гаспадарцы, а таксама прэпаратаў, якія знішчаюць грызуноў.

Сіпухі любяць сяліцца побач з чалавекам на гарышчах і ў вентыляцыйных нішах. Гэтыя месцы ўсё часцей закрываюць у дамах на Беларусі, што не пакідае магчымасці сован гнездавацца. Для вырашэння жыллёвага пытання супрацоўнікі Цэнтра экалагічных рашэнняў і АПБ будуюць і развешваюць домікі для сіпух у заходніх раёнах Брэсцкай і Гродзенскай абласцей.

### Сіваваронка

Аказваецца, у Беларусі можна сустрэць трапічных птушак. На тэрыторыі краіны ёсць тры віды ракшападобных птушак, і сіваваронка – адна з іх. Астатнія іх сваякі насяляюць трапічныя і субтрапічныя зоны.

У Беларусі сіваваронка жыве ад мая да жніўня: выводзіць тут птушанят, а затым ляціць зімаваць у Афрыку. У канцы 1970-х гадоў колькасць віду ў нашай краіне дасягала 30 тысяч пар. На сёння вядомая ўсяго адна пара ў Чэрыкаўскім раёне Магілёўскай вобласці. Птушка знікла практычна ўсюды, дзе раней рэгістравалася як параўнальна звычайная.

– Ніхто дакладна не ведае, чаму сіваваронкі амаль цалкам зніклі ў нас і ва ўсіх суседніх краінах, – прызнаецца дырэктар АПБ **Аляксандр Вінчэўскі**. – Гэтых найпрыгажэйшых птушак сотнямі і тысячамі штогод страляюць на міграцыі ў Ліване і суседніх краінах. Паляўнічыя хваляцца ў інтэрнэце адзін перад адным кучамі, складзенымі з сіваваронак, выкладваюць імі даты і словы. Звароты да ўрада Лівана звонку пакуль не паўплывалі на ўзровень браканьерства ў гэтай краіне. Сітуацыя з сіваваронкай яскрава паказвае, што ахова прыроды – задача для міжнародных намаганняў.

### Чырвоны каршун

Чырвоны каршун – элегантная шэра-рудая птушка з размахам крылаў да 180 сантыметраў і хвастом відэльцам. Да сярэдзіны 20 стагоддзя чырвоны каршун рэгулярна сустракаўся ў паўднёвай і заходняй частках Беларусі. На сёння вядомая толькі адна пара, якая гняздуецца ў Гродзенскім раёне Гродзенскай вобласці.

Усе вядомыя гнёзды ў нас размяшчаліся на вышыні 18-25 метраў у старых лясах. Менавіта такія лясы асабліва прыцягваюць дрывасекаў.

### Беркут

Яшчэ адна буйная драпежная птушка з размахам крылаў да двух метраў, якую можа не заспець наступнае пакаленне, – гэта беркут. У Беларусі гняздуецца ўсяго адна пара, на Віцебшчыне. Гэтыя арлы займаюць маладаступныя верхавыя балоты.

– Найбольш негатыўна на іх уплывае збор журавін вясной. Гэтыя птушкі вельмі рана, яшчэ ў лютым, прыступаюць да гнездавання. І зборшчыкі, самі таго не жадаючы, могуць перашкодзіць птушкам: дастаткова прайсці каля гнязда, каб падняць самку на паўгадзіны-гадзіну, а зародкі ў яйках замярзаюць. Людзі ж могуць нават не заўважыць гэтага, – тлумачыць Аляксандр Вінчэўскі. – А калі людзі ўладкуюць на балотным востраве стаянку, у птушак увогуле не застаецца шанцаў убачыць сваіх птушанят на крыле ў гэтым сезоне. Вясновы ж збор журавін фармальна забаронены, проста гэта ніхто не кантралюе.

Часам беркуты не заканона становяцца ахвярамі майстэрняў па вырабе пудзілаў. Кантроль дзейнасці такіх майстэрняў у Беларусі практычна адсутнічае. Часам гэтыя арлы трапляюць у пасткі, выстаўленыя для чатырохногіх драпежнікаў.

Сярод іншых фактараў, якія ўплываюць на папуляцыю беркута, – змяненне клімату. Яно адмоўна адбіваецца на папуляцыі зайца-беляка. У белым строі зайцу цяжка схавацца ад драпежнікаў у бясснежную зіму, а бяляк – любімая здабыча беркута – знікае.

### Чорнаваллёвая гагара

Ужо доўгі час вядомая ўсяго адна пара гэтага віду на Віцебшчыне. Гэта тундравая птушка любіць азёры на верхавых балотах. Скарачэнне яе папуляцыі таксама звязана са змяненнем клімату, якое, у сваю чаргу, уплывае на асяроддзе пражывання віду.

Пагрозу чорнаваллёвай гагары могуць узяць турысты і рыбаловы з сабакамі, якія дабіраюцца да самых цяжкадаступных балотных азёр, палохаючы птушак. Катэгарычна не рэкамендуецца трывожыць гэты від у перыяд інкубацыі аж да ліпеня, пакуль птушаняты не падрастуць.

### Белая курапатка

Белая курапатка – іншы тундравы від, што знікае ў нас з-за змены клімату. Увосень яна апранае белы ўбор, але вось снегу часам давядзіцца чакаць да вясны, а драпежнікам лёгка знайсці курапатку ў бясснежную зіму.

Мяркуючы па інфармацыі, што паступае з балота Ельня, мясцовая папуляцыя губляе ўжо апошніх асобін у краіне. Колькі яна праіснуе, ніхто не ведае. Яшчэ сто гадоў таму гэты від быў распаўсюджаны нават на Палессі.

### Звычайны хамяк

Від, які знаходзіцца пад крытычнай пагрозай знікнення ў свеце, – звычайны хамяк. Ён можа знікнуць на працягу бліжэйшых 30 гадоў.

Сярод галоўных прычын падзення колькасці звычайных хамякоў называюць інтэнсіўную сельскую гаспадарку, знікненне палёў шматгадовых траў, якія рэдка пераворваюцца, а таксама выкарыстанне атруты супраць грызуноў. Згубны ўплыў аказвае і змяненне клімату, у прыватнасці, зімы з частымі адлігамі. З-за перападаў тэмпературы хамякі часцей прачынаюцца і хутчэй з'ядаюць свой запас корму.

Від насяляе ад Францыі да Казахстана, але беларусаў, якія бачылі дзікіх хамякоў у апошняе дзесяцігоддзе ўжывую, адзінкі. АПБ займаецца пошукам гэтага рэдкага грызуна ў Брэсцкай і Гомельскай абласцях з 2010 года, але пакуль беспаспяхова. Калі вам вядомая жылая нара хамяка звычайнага, калі ласка, напішыце ў АПБ на **info@ptushki.org.**

– Усе пералічаныя віды ўключаныя ў нацыянальную Чырвоную кнігу, – удакладняе Аляксандр Вінчэўскі. – Усяго ў ёй 202 віды жывёл і птушак і 303 віды раслін. Аднак на сёння створаныя і зацверджаныя ўсяго дзевяць планаў дзеянняў па захаванні дзікіх жывёл і 30 планаў дзеянняў па захаванні дзікарослых раслін. Ні для аднаго з вышэйапісаных сямі відаў плана дзеянняў няма. Дзікай прыродзе Беларусі неабходныя больш хуткія і рашучыя меры дапамогі.

### І што рабіць нам?

Згодна з дакладам ААН, каля мільёна відаў жывёл, птушак і раслін сёння на мяжы вымірання. Тэмпы знікнення біялагічных відаў паскараюцца з-за знішчэння асяроддзя пражывання, што, у сваю чаргу, звязана з ростам колькасці насельніцтва планеты і ростам спажывання прыродных рэсурсаў.

– Важна спажываць рэсурсы адказней у самым шырокім сэнсе гэтага паняцця. Падзяляць смецце, адмовіцца ад новага тэлефона, калі стары яшчэ працуе, разумеючы, што на яго стварэнне сыходзяць прыродныя рэсурсы. Есці менш мяса, вытворчасць якога забруджвае навакольнае асяроддзе. Падтрымліваць прыродаахоўныя арганізацыі і фонды, акцыі і кампаніі, – кажа дырэктар АПБ. – Важна памятаць, што ад нас таксама залежыць, колькі яшчэ пакаленняў убачыць тых ці іншых жывёл і птушак.

**Сяргей ЮШКЕВІЧ,**
**ГА «Ахова птушак Бацькаўшчыны».**

## Беларусь 1

**6.10, 21.55** Х/ф **«О ЧЕМ НЕ РАССКАЖЕТ РЕКА».**
**8.00** Існасць [СТ].
**8.30** Смысл жизни.
**9.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».
**9.55** Здоровье. [СТ].
**10.45** Дача.
**11.20** «Повод есть».
**12.10** Х/ф **«ПЕРЕЛЕТНЫЕ ПТИЦЫ».**
**14.15** Женщины и спорт.
**15.10** Краіна.
**15.40** Истории спасения.
**16.15, 19.25** Х/ф **«МАРУСЯ».**
**19.00** «Вопрос номер один».
**21.00** Панорама.
**21.40** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**
**1.45** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.
**8.00, 16.30** Телебарометр.
**8.05** Т/с **«КЛОН».**
**10.00** Анимация для всей семьи «Эмоджи фильм».
**11.20** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.
**12.10** «Камень, ножницы, бумага».
**12.45** «На неделю».
**13.35** «Барышня-крестьянка». Реалити-шоу.
**14.40** Х/ф **«РИКИ И ФЛЭШ».**
**16.35** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.
**18.25** Х/ф **«ГОСТЬЯ».**
**20.35** Спортлото 6 из 49, КЕНО.
**22.40** Х/ф **«НОКДАУН».**

## Беларусь 3

**7.35** «Трое из Простоквашино». Мультфільм.
**7.50** «Сіла веры».
**8.15, 14.15** Навіны культуры.
**8.35** «Кожны дзень доктара Каліннікавай». Мастацкі фільм СТ.
**10.10** «Жывая спадчына».
**10.35** «Беларуская кухня». Пражонка.
**11.05, 18.15** «Я хачу гэта ўбачыць!».
**11.30** «Пра Чырвоную Шапачку». Мастацкі фільм.
**13.50** «Навукаманія».
**14.35** «Фанфан-Цюльпан». Мастацкі фільм.
**16.15** «Легенды кіно». Пётр Тадароўскі.
**16.55** «Каханая жанчына механіка Гаўрылава». Мастацкі фільм СТ.
**18.45** Гала-канцэрт «Мы – народ…».
**20.25** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік НАН Беларусі, пісьменнік Серж Мінскевіч.
**20.40** «Калыханка».
**21.05** «Альпійская балада». Мастацкі фільм СТ.
**22.35** «Класіка сусветнага кіно». Фільм Федэрыка Феліні «Восем з паловай».
**22.45** «Восем з паловай». Мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.
**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».
**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».
**10.00** ОНТ представляет: «Тревожная кнопка».
**10.25** «Видели видео?».
**11.25** «Алексей Баталов. «Как долго я тебя искала…».
**12.30** Х/ф **«ДОРОГОЙ МОЙ ЧЕЛОВЕК».**
**14.35** Сольный концерт Елены Ваенги в Кремле.
**16.20** «Владимир Мулявин. «Песняры»- молодость моя».
**18.15** «Песняры», «Самоцветы» в юбилее ансамбля «Ариэль».
**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».
**21.05** «Сегодня вечером».
**22.45** «Лобода. Суперстар-шоу!».
**0.45** К 80-летию Валентины Малявиной. «Роль без права переписки».

## СТВ

**6.40, 23.00** Т/с **«ТУРИСТЫ».**
**8.15** «Анфас».
**8.35** «Самая полезная программа».
**9.30** «О вкусной и здоровой пище».
**10.00** «Минск и минчане».
**10.30** «Центральный регион».
**11.05** «Неизвестная история».
**12.00, 13.40, 16.40** Т/с **«ГЛУХАРЬ».**
**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».
**20.20** «СТВ-спорт».
**20.30** Документальный спецпроект.
**22.00** «Территория заблуждений».
**0.30** Т/с **«СДВИНУТЫЙ».**

## Мир

**5.00, 3.30** Т/с **«УБИТЬ СТАЛИНА».**
**6.15** «Секретные материалы». Конец Третьего рейха.
**6.40** Х/ф **«ХРОНИКА ПИКИРУЮЩЕГО БОМБАРДИРОВЩИКА».**
**8.25** «Наше кино. История большой любви». Завтра была война.
**9.00** «Слабое звено».
**10.00** Погода в Мире.
**10.10** Х/ф **«А ЗОРИ ЗДЕСЬ ТИХИЕ».**
**14.05, 16.15, 19.15** Т/с **«СЕМНАДЦАТЬ МГНОВЕНИЙ ВЕСНЫ».**
**16.00, 19.00** Новости.

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».
**6.05, 6.45** Сегодня. Главное.
**6.15, 7.00** Военно-приключенческий детектив «Немец».
**7.25** «Готовим с Алексеем Зиминым».
**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».
**8.20** «ЧП.by: Время итогов».
**8.45** Один день.
**9.20** «Врачебные тайны плюс».
**10.20** Сломать стереотипы.
**10.40** Главная дорога.
**11.15** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».
**12.00** Квартирный вопрос.
**13.00** Истории спасения.
**13.30** «Поедем, поедим!».
**14.05** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**
**15.25, 16.20** «Следствие вели…».
**17.15** Х/ф **«ПОЛУЗАЩИТНИК».**
**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.
**19.55** «Ты не поверишь!».
**21.00** «Ты супер! 60+».
**23.15** Х/ф **«ПОГОНЯ ЗА ШЕДЕВРОМ».**

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Новое Утро».
**9.30** «Формула еды».
**9.55** «Тайны Беларуси».
**11.00** ВЕСТИ.
**11.20** «Наше дело».
**11.35** «Сто к одному».
**12.25** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!».
**14.25** Emin «Good love». Сольный концерт.
**16.15** Х/ф **«ЗОРКО ЛИШЬ СЕРДЦЕ».**
**19.45** «Плюс-минус».
**20.00** ВЕСТИ В СУББОТУ.
**20.45** «Привет, Андрей!». Вечернее шоу Андрея Малахова.
**22.30** Х/ф **«СВЕТ В ТВОЁМ ОКНЕ».**

# кіно і спорт

### TV1000

**5.00** Тристан и Изольда. **7.30** История одного вампира. **9.40, 3.05** История рыцаря. **12.00** Гостья. **14.05** Голодные игры. **16.30** Голодные игры: И вспыхнет пламя. **19.00** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть I. **21.00** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть II. **23.15** Дюна. **1.35** Заколдованная Элла.

### TV1000 ACTION

**5.10** Штурм Белого дома. **7.30** Горец. **9.30** Горец 2: Оживление. **11.00** Горец 3: Последнее измерение. **12.40** К-19. **15.00, 3.30** Ю-571. **16.55** Падение ангела. **19.00** Телохранитель киллера. **20.55** Из Парижа с любовью. **22.30** 16 кварталов. **0.05** Легенда. **2.10** Перестрелка.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.00, 2.00** Свадьба по обмену. **6.40** История одного назначения. **8.50** 2 дня. **10.20** Мамы 3. **12.05** О чём молчат девушки. **13.30** Подарок с характером. **15.05** Мамы. **17.00, 3.30** Призрак. **19.00** Небесный суд. **20.40, 22.25** Небесный суд. Продолжение. **0.10** Кома.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **9.30, 10.00, 10.30, 11.15** Скрипт-реалити. «Старец». **11.45** Х/ф **«КОНТАКТ». 14.45** Х/ф **«ВОЗВРАЩЕНИЕ». 16.30** Х/ф **«РАЗРУШИТЕЛЬ». 19.00** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВРАТА». 21.30** Х/ф **«СОЛДАТ». 23.30** Х/ф **«КОБРА». 1.15, 2.00** «Мистические истории». **2.45, 3.30, 4.15** «Тайные знаки». **5.00, 5.30** «Охотники за привидениями».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ЗАКОН ОБРАТНОГО ВОЛШЕБСТВА». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ЛАСТОЧКИНО ГНЕЗДО». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ЖЕНСКИЕ МЕЧТЫ О ДАЛЬНИХ СТРАНАХ». 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ТАКСИ ДЛЯ АНГЕЛА».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.15** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ». 3.10** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ПОХОРОНАХ». 4.45** Х/ф **«ПРИМАДОННА». 6.50** Х/ф **«САБРИНА». 9.15** Х/ф **«РАЗБОРКИ В СТИЛЕ КУНГ-ФУ». 11.10** Х/ф **«ПАПА-ДОСВИДОС». 13.15** Х/ф **«АЛОХА». 15.10** Х/ф **«НЕЗВАНЫЕ ГОСТИ». 17.20** Х/ф **«НЕ ШУТИТЕ С ЗОХАНОМ!». 19.30** Х/ф **«ПРИТВОРИСЬ МОЕЙ ЖЕНОЙ». 21.35** Х/ф **«ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ». 23.10** Х/ф **«ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ 2».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.05, 1.00, 2.00, 3.00, 3.50, 4.50, 5.40, 6.40, 7.35, 8.30** Рокко Скьявоне. **9.25** Матрица: Перезагрузка. **11.55, 13.00, 13.50, 14.40, 15.35, 16.25, 17.25, 18.20** Мертвое озеро. **19.20, 20.20, 21.15, 22.10, 23.00** Анатомия убийства.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00, 2.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **12.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **13.05, 21.00** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **14.40** Х/ф **«КОЛЛЕКТОРША». 16.35** Х/ф **«ВСЁ И СРАЗУ». 18.35** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК-ПАУК». 22.35** Х/ф **«ЗАВТРАК У ПАПЫ». 0.25** Ужасы «ОТМЕЛЬ». **2.55** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 4.05** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.55** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.40** Футбол. Чемпионат Европы. **8.25** Пляжный футбол. Евролига. Россия – Беларусь. **9.30** Баскетбол. Чемпионат Европы. Женщины. Словакия – Беларусь. **11.15** Большой спорт. **12.00** Теннис. WTA. Берлин. 1/2 финала. **13.30** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. Серия за 3-е место. Второй матч. **15.25** Вот это спорт! **15.45** Футбол. Чемпионат Европы. Венгрия – Франция. **17.55, 1.10** Пляжный футбол. Евролига. Турция – Беларусь. **18.35, 21.35** Спорт-центр. **18.45** Футбол. Чемпионат Европы. Португалия – Германия. **21.00** Автоспорт. Экстрим-Е. **21.45** Футбол. Чемпионат Европы. Испания – Польша. В перерыве Спорт-центр. **23.55** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 13-й тур. Обзор. **0.40** Футбол. Чемпионат Европы. Дневник.

### EUROSPORT

**1.00** Велоспорт. Чемпионат Франции. Мужчины. Гонка на время. **2.30** Снукер. Чемпионат мира. 1/2 финала. Бинэм – Селби. **4.00** Велоспорт. Классика. **6.00** Мотогонки. «24 часа Ле-Мана». **8.00, 12.30** Велоспорт. Чемпионат Франции. Женщины. Гонка на время. **9.30** Олимпийские игры. «Зал славы». Лондон-2012. **10.30** Велоспорт. Чемпионат Франции-2020. Женщины. Групповая гонка. **13.30** Велоспорт. Чемпионат Франции. Женщины. Групповая гонка. Прямая трансляция. **16.00** Велоспорт. Чемпионат Испании. **17.30** Гребной слалом. Кубок мира. Германия. **18.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Обзор. **19.30** Автогонки. World Endurance. Портимау. **21.30** Мотогонки. All Access. **22.00** Автогонки. Формула Е. **23.00** Автогонки. Формула Е. Мексика. Квалификация. **23.30** Автогонки. Формула Е. Мексика. Первая гонка. Прямая трансляция.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто. Вторые руки. **6.30, 9.20, 12.25, 14.50, 17.55, 21.35, 0.10, 3.10** Итоговые новости. **6.45, 7.30, 18.15, 1.20, 3.25** Супергрузовики. **8.20, 4.40** Советы для каждого. Эксклюзив. **8.50, 10.10** Возвращение легенды. **9.40** Испытание на прочность. **10.40** Комплектация. **11.15** Все включено. **11.45, 22.55** Автомобильные музеи мира. **12.40, 13.00, 20.05, 20.25, 23.30, 23.50** Тест с дядей Ваней. **13.20, 0.25** Байки про байки. **14.00** Все включено. Эксклюзив р. **14.20, 15.10, 2.05, 2.40** Тест на «Драйве». **15.45, 20.45** Теория полного привода. **16.20** Кругосветка по бездорожью. **16.55, 21.55, 5.20** Советы юриста. **17.45, 19.25, 22.40** Наезд! **19.05** Проверка на дороге. **19.30** Всё о мото. **21.20, 5.05** Эконом-тест. **1.05** Мото тест-драйв. **4.10** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.20** Гараж: Последний приют. **6.45, 7.35, 8.20** Переделка старья. **9.10, 10.00, 10.50, 11.35, 12.25, 13.15, 14.05** Ржавые тачки на прокачку. **14.55, 15.40, 16.30, 17.15, 0.30, 1.20, 2.05, 2.55, 3.40, 4.25, 5.15** Австралийские золотоискатели. **18.00, 22.00, 22.50** Речные чудовища. **18.50** Винтажные электромобили. **19.40** Строительство гигантов. **20.30** Железная дорога во льдах. **21.15** Бирюзовая лихорадка. **23.45** Ледовые викинги.

### HISTORY

**6.05, 6.50, 7.35, 8.20, 15.20, 16.05** Музейные тайны. **9.05** Очень странные экспонаты. **9.55, 10.40, 1.20, 2.10** Тайны музеев. **11.30, 13.50, 14.35, 2.55** Расшифровка тайн. **12.15, 13.00** Великая эпидемия чумы в Лондоне. **16.50, 17.35** Мифические существа. **18.25, 19.20, 23.40, 0.30** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **20.10** Салемские ведьмы. **21.00** Древние небеса. **21.55** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **22.45** Операция «Золотая лихорадка». **3.40, 4.40** Тайны мертвых. **5.40** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.00, 3.40** Уличный ветеринар. **6.25, 7.10, 8.00, 8.45, 9.30, 10.20, 11.05, 11.50, 19.00, 19.45, 20.35** Ветеринар из Йоркшира. **12.35, 13.30** Когда киты ходили по суше. **14.25** Тайны великанов Ледникового периода. **15.20** В осаде – акулы острова Вознесения. **16.15, 17.10, 18.05** Гениальные морские охотники. **21.20** Необъяснимая Земля. **22.15, 23.00, 0.35** Мутации погоды. **23.45** Невероятные встречи с животными. **1.20** Выживание в дикой природе. **2.10** В зоопарке Таронга. **3.15** Спасение диких медведей. **4.10, 4.35** Постыдные проблемы питомцев. **5.00** Подработка в дикой глуши.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.45** Научные глупости. **6.20, 7.10** Дикий тунец 8. **8.05** Международный аэропорт Дубай. **8.55, 9.45** Суперсооружения: чудеса инженерии. **10.35, 11.25** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **12.15, 13.05** Нераскрытые тайны второй мировой войны. **13.55, 14.25, 14.50, 15.20** Сделать за один день. **15.45, 16.35** Затерянные сокровища Египта. **17.25, 18.20, 19.15** Морган Фриман. **20.10, 23.25** Служба безопасности аэропорта: Первый класс. **21.00, 21.45** Злоключения за границей 12. **22.35** Служба безопасности аэропорта: Бразилия. **0.15** Расследование авиакатастроф: Специальный выпуск 3. **1.05, 1.50** Инстинкт выживания. **2.35, 3.25** Неизвестная планета земля. **4.15, 5.00** Авто-SOS 7.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 10.05, 11.00, 13.55, 15.00, 18.00, 19.05, 22.20, 23.10, 2.00, 3.00** Рыбалка без границ. **6.30, 7.30, 8.35, 9.35, 11.30, 12.35, 13.40, 14.30, 15.35, 16.40, 17.25, 18.35, 19.40, 20.35, 21.45, 23.40, 0.30, 1.30, 2.30, 3.30, 4.30, 5.30** Дело вкуса. **6.45, 7.40, 8.50, 9.50, 10.40, 11.45, 12.50, 14.45, 15.50, 17.40, 18.50, 19.55, 20.55, 22.00, 22.50, 0.45, 1.45, 2.45, 3.45, 4.45, 5.45** Охотничья и рыболовная кухня. **8.00** На рыбалку с охотой. **9.05, 12.05, 13.10, 16.10, 16.55, 20.10, 21.10, 0.00, 1.00, 4.00, 5.00** Безграничная рыбалка.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30 6.30 6.30, 10.25 10.25 10.25, 14.25 14.25 14.25, 18.30 18.30 18.30, 22.35 22.35 22.35, 2.50 2.50 2.50** ..И КОМПОТ! **6.45, 10.45, 14.45, 18.45, 22.50, 3.05** Кашеварим. **7.00, 11.00, 15.00, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.30, 15.30, 19.35, 23.40, 3.50** Тихая моя родина. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 16.40, 20.40, 0.50, 4.50** Варенье. **8.55, 12.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Старинные русские усадьбы. **9.25, 13.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.30** Безопасность. **12.40** Детская мастерская. **2.05** Вокруг сыра.

## Беларусь 1

**5.55** Слово Митрополита Вениамина на День Святой Троицы.

**6.05** Х/ф **«О ЧЕМ НЕ РАССКАЖЕТ РЕКА».**

**7.55** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15** «Зона Х». Итоги недели.

**10.50** Маршрут построен.

**11.30** «Вопрос номер один».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ПЕРЕЛЕТНЫЕ ПТИЦЫ».**

**14.25** Один день.

**15.15** Вокруг планеты.

**15.55** «Повод есть».

**16.30** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**

**16.45, 19.10** Х/ф **«НЕ ХОЧУ ТЕБЯ ТЕРЯТЬ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.30** Х/ф **«МАРУСЯ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 21.15** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** «Три первых свидания». Реалити-шоу.

**10.45** Х/ф **«НОКДАУН».**

**13.15** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**14.15** «Папа попал». Реалити-шоу.

**16.00** Х/ф **«ТАК СЕБЕ КАНИКУЛЫ».**

**17.40** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**18.45** Футбол. Чемпионат Европы. Швейцария – Турция.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.45** Х/ф **«РИКИ И ФЛЭШ».**

**23.45** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.45** Навіны культуры.

**8.20** «Фанфан-Цюльпан». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Грыбы лісіцы з мясам у малацэ.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Народны майстар». Валянціна Савіцкая (дэкаратыўна-прыкладное мастацтва).

**12.15** «Кожны дзень доктара Калліннікавай». Мастацкі фільм СТ.

**14.05** «Альпійская балада». Мастацкі фільм СТ.

**15.40** «Кадры жыцця». Народная артыстка Беларусі Ірына Яромкіна.

**16.30** П.І.Чайкоўскі. «Ганна Карэніна». Балет Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

**18.25** «Архітэктура Беларусі» СТ.

**18.40** «Легенды кіно». Пётр Тадароўскі.

**19.20** «Каханая жанчына механіка Гаўрылава». Мастацкі фільм СТ.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Звычайны фашызм». Публіцыстычны фільм.

**23.15** Канцэрт Руслана Аляхно «За жыццё!».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** «Здоровье».

**8.10** Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** К 65-летию Елены Сафоновой. «Цвет зимней вишни».

**10.30** Х/ф **«ДЕТИ ДОН КИХОТА».**

**12.05** «Видели видео?».

**14.20** «ДОстояние РЕспублики». Лучшее.

**16.20** «ДОстояние РЕспублики». Лучшее. Продолжение.

**16.45** К 85-летию Михаила Державина. «Во всем виноват Ширвиндт».

**18.20** «Три аккорда». Новый сезон.

**20.00** Контуры.

**21.20** ОНТ представляет: «Тебя ждут дома».

**21.30** «Что? Где? Когда?». Летняя серия игр.

**22.50** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.10** Х/ф **«СТАТСКИЙ СОВЕТНИК».**

## СТВ

**6.35, 23.25** Т/с **«ТУРИСТЫ».**

**8.10** Документальный проект.

**9.00** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловать».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Знаете ли вы, что?».

**12.20, 13.40, 16.40** Т/с **«ГЛУХАРЬ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**21.05** Документальный спецпроект.

**21.50** «Засекреченные списки».

**0.55** «Великие тайны».

## Мир

**5.00** Т/с **«УБИТЬ СТАЛИНА».**

**6.10** Х/ф **«ЭКИПАЖ МАШИНЫ БОЕВОЙ».**

**7.40** Д/ф «ЗАЖИВО СОЖЖЕННЫЕ. ИСТОРИИ БЕЛОРУССКИХ ДЕРЕВЕНЬ».

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30, 1.00** Т/с **«МОЛОДАЯ ГВАРДИЯ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**2.05** Х/ф **«ЖИВЫЕ И МЕРТВЫЕ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.20** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.50** «Первая передача».

**11.20** «Чудо техники».

**12.10** «Дачный ответ».

**13.10** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**

**15.20, 16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.30** «Ты супер! 60+». Финал.

**0.00** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Х/ф **«СВЕТ В ТВОЁМ ОКНЕ».**

**10.30** Х/ф **«ЖИЗНЬ РАССУДИТ».**

**14.05** ПРЕМЬЕРА. «Парад юмора».

**15.50** Х/ф **«НА КАЧЕЛЯХ СУДЬБЫ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях».

**21.45** Х/ф **«ЖЕНА ПО СОВМЕСТИТЕЛЬСТВУ».**

**23.20** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.00** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

# кіно і спорт

### TV1000

**5.20, 2.30** Девушка из Джерси. **7.15, 4.05** Чужой билет. **9.05, 0.35** Марли и я. **11.05** Васаби. **12.40** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть I. **14.45** Голодные игры: Сойка-пересмешница. Часть II. **17.05** Быстрый и мёртвый. **19.00** Поезд на Юму. **21.05** Отчаянный. **22.55** Однажды в Мексике.

### TV1000 ACTION

**5.20, 15.00** Телохранитель киллера. **7.15, 1.05** Джонни Д. **9.35** Легенда. **11.50** Из Парижа с любовью. **13.20** 16 кварталов. **17.00** Пипец. **19.00** Хранители. **21.40** Призрачный гонщик. **23.30** Призрачный гонщик 2. **3.20** Антиганг.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Робо. **7.00** Небесный суд. **8.40, 10.25** Небесный суд. Продолжение. **12.10** 8 первых свиданий. **13.45** 8 новых свиданий. **15.15** 8 лучших свиданий. **17.00** Бой с тенью. **19.15** Бой с тенью 2: Реванш. **21.35** Бой с тенью 3D: Последний раунд. **23.45** Антикиллер. **1.40** Любовницы. **3.10** Я худею. **4.45** О чём молчат девушки.

### ТВ3

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **8.30** «Новый день». **9.00, 10.00, 11.00** Т/с **«КАСЛ». 11.45** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВРАТА». 14.15** Х/ф **«ТЕРМИНАТОР: СУДНЫЙ ДЕНЬ». 17.00** Х/ф **«СОЛДАТ». 19.00** Х/ф **«ВТОРЖЕНИЕ». 21.00** Х/ф **«БЮРО ЧЕЛОВЕЧЕСТВА». 23.00** Х/ф **«ВОЗВРАЩЕНИЕ». 1.00** Х/ф **«КОБРА». 2.15** Х/ф **«РОНИН». 4.15, 5.00** Т/с **«БАШНЯ. НОВЫЕ ЛЮДИ».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ТАКСИ ДЛЯ АНГЕЛА». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ЛАСТОЧКИНО ГНЕЗДО». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«ЖЕНСКИЕ МЕЧТЫ О ДАЛЬНИХ СТРАНАХ». 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 2.00, 3.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.45** Х/ф **«ЖЕНЩИНЫ ПРОТИВ МУЖЧИН: КРЫМСКИЕ КАНИКУЛЫ». 2.10** Х/ф **«ГРЕЦКИЙ ОРЕШЕК». 3.50, 12.10** Х/ф **«ПАПАШИ БЕЗ ВРЕДНЫХ ПРИВЫЧЕК». 5.45** Х/ф **«ЖИВОТНОЕ». 7.15** Х/ф **«ТАКИЕ РАЗНЫЕ БЛИЗНЕЦЫ». 8.50** Х/ф **«ОКЕЙ, ЛЕКСИ!». 10.20** Х/ф **«SUPERАЛИБИ». 14.00** Х/ф **«БРИЛЛИАНТОВЫЙ ПОЛИЦЕЙСКИЙ». 15.50** Х/ф **«СВИДАНИЕ ВСЛЕПУЮ». 17.35** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ». 19.30** Х/ф **«ОДНОКЛАССНИКИ 2». 21.20** Х/ф **«САБРИНА». 23.45** Х/ф **«ПРИМАДОННА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 0.55, 1.50, 2.50, 3.35, 4.20, 5.05** Анатомия убийства. **6.00** Матрица: Перезагрузка. **8.30** Матрица: Революция. **10.50, 11.50, 12.55, 13.55, 14.55, 16.00, 17.00, 18.00** Крик совы. **19.00, 19.55, 20.50, 21.40, 22.30, 23.20** Ликвидация.

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 16.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 3.10** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«ANGRY BIRDS В КИНО». 14.30** Т/с **«СТОРИЗ». 17.15** Х/ф **«НЕЖДАННЫЙ ПРИНЦ». 19.00** Х/ф **«ФИЛОСОФЫ: УРОК ВЫЖИВАНИЯ». 21.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **22.05, 1.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **23.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **0.15** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **2.40** «ПРОСТО КУХНЯ». **4.00** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 5.10** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**7.00** Легкая атлетика. Командный чемпионат Европы. Первая лига. **10.05, 22.55** Футбол. Чемпионат Европы. Дневник. **10.35** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. 13-й тур. Динамо-Минск – БАТЭ (Борисов). **12.35** Футбол. Беларусбанк – чемпионат Беларуси. 13-й тур. Обзор. **13.20** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. Финал. Второй матч. **15.20** На пути к Токио. **15.50, 18.35** Спорт-центр. **17.45** Вот это спорт! **18.05** Пит-стоп. **18.45** Футбол. Чемпионат Европы. Италия – Уэльс. **20.55** Футбол. Чемпионат Европы. Швейцария – Турция. **23.25** Итоги недели. **0.10** Теннис. WTA. Берлин. Финал.

### EUROSPORT

**1.00** Ралли. ERC. Польша. Первый день. **1.30, 4.00, 8.00, 10.35** Велоспорт. Чемпионат Франции. Женщины. Групповая гонка. **2.30** Снукер. Чемпионат мира. 1/2 финала. К. Уилсон – Мёрфи. **5.00** Велоспорт. Классика. **6.00** Автогонки. World Endurance. Портимау. **9.30** Олимпийские игры. «Зал славы». Рио-2016. **12.30** Гребной слалом. Кубок мира. Германия. Прямая трансляция. **13.45, 20.00, 21.00** Гребной слалом. Кубок мира. Германия. **14.15** Велоспорт. Чемпионат Франции. Мужчины. Гонка на время. **15.15** Велоспорт. Чемпионат Франции. Мужчины. Групповая гонка. Прямая трансляция. **18.00** Олимпийские игры. Big in Japan. **19.00** Олимпийские игры. **22.00** Автогонки. ETCR. Италия. **23.00** Автогонки. Формула E. Мексика. Квалификация. **23.30** Автогонки. Формула E. Мексика. Вторая гонка. Прямая трансляция.

# хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто. Вторые руки. **6.30, 19.00, 3.20** Советы для каждого. Эксклюзив. **6.55, 17.50, 1.15** Супергрузовики. **7.40, 8.15, 3.50, 4.45** Проверка на дороге. **7.55, 10.15, 13.20, 16.30, 18.40, 23.25, 2.00, 4.00** Итоговые новости. **8.35** Возвращение легенды. **9.05** Испытание на прочность. **9.40** Все включено. **10.35** Комплектация. **11.00** Автолайф. **11.25, 19.30, 22.50** Всё о мото. **11.55, 12.20, 20.05, 20.25, 23.40, 0.00** Тест с дядей Ваней. **12.40, 0.20** Байки про байки. **13.35, 1.00** Мото тест-драйв. **13.55** Тест на «Драйве». Эксклюзив. **14.30, 2.20, 2.50** Тест на «Драйве». **15.05, 4.15** Сити-тестер. Эксклюзив. **15.35, 5.00** Эконом-тест. **15.55, 20.40** Теория полного привода. **16.50, 21.45, 5.20** Советы юриста. **17.35, 22.40, 5.10** Наезд! **21.15** Кругосветка по бездорожью.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.45, 8.35, 9.30, 10.20** Речные чудовища. **11.15** Винтажные электромобили. **12.00** Железная дорога во льдах. **12.50, 13.35, 14.25, 15.10, 16.00, 16.45, 17.35, 18.20, 19.10, 19.55, 20.45, 21.30, 22.20** Австралийские золотоискатели. **23.05** Бирюзовая лихорадка. **23.50** Снос в Австралии. **0.40, 1.25, 2.15, 3.00, 3.50, 4.35** Ледовые викинги. **5.25** Гараж: Последний приют.

### HISTORY

**6.00, 6.45, 12.10, 12.50** Музейные тайны. **7.30, 8.20** Тайны музеев. **9.05** Очень странные экспонаты. **9.55, 10.40, 11.25, 15.15, 16.00, 1.50, 2.35** Расшифровка тайн. **13.35, 14.25** Великая эпидемия чумы в Лондоне. **16.45** Древние небеса. **17.40** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **18.30, 19.20, 20.10** Анна Болейн: арест, суд и казнь. **21.00** Забытая армия викингов. **21.50** Вечные Помпеи. **22.50** Салемские ведьмы. **23.40** Ватикан – вечный город наместников божьих. **0.35** Помпеи: после извержения. **3.20** Тайны мертвых. **4.20, 5.05** Титаник: истории из глубины.

### NATURE

**6.15, 7.10, 8.05** Гениальные морские охотники. **9.00, 9.55** Когда киты ходили по суше. **10.50** Тайны великанов Ледникового периода. **11.45, 12.35, 13.20, 14.10** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **15.00** Больница для слонов. **15.50, 16.40, 17.35** Тайная жизнь слонов. **18.30** Медведь – спасатель коал. **19.20, 20.15, 21.05, 22.00, 22.50** Речные чудовища. **23.45** Невероятные встречи с животными. **0.35** Мутации погоды. **1.20** Выживание в дикой природе. **2.10** В зоопарке Таронга. **3.15** Спасение диких медведей. **3.40** Уличный ветеринар. **4.05, 4.35** Постыдные проблемы питомцев. **5.00** Подработка в дикой глуши.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 6.20** Научные глупости. **6.45, 7.35, 8.20** Техасский улов. **9.10** Международный аэропорт Дубай. **10.00, 10.55** Activate: глобальное гражданское движение. **11.50, 12.40, 13.30, 1.20, 3.35** Авто – SOS 8. **14.20, 15.10, 16.00** Космос: возможные миры. **16.50, 17.40, 18.30, 19.20** В дикой природе с Беаром Гриллсом. **20.10** Необычные промыслы. **21.00** Служба безопасности аэропорта: Рим. **21.50, 22.40** Служба безопасности аэропорта: Бразилия и Перу. **23.40, 0.30** Настоящий суперкар. **2.00, 2.45** Осушить океан 3. **4.20, 5.10** Антарктика.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 22.05, 2.05** Ружейная охота. Первые шаги. **6.30, 22.35, 2.35** Сам себе охотник. **7.00, 10.50, 14.55, 19.00, 23.10, 3.05** Нахлыст без границ. **7.30, 11.20, 15.25, 19.30, 23.40, 3.35** Мир рыболова. **8.00, 11.50, 15.55, 20.00, 0.10, 4.05** Рыболовные путешествия. **8.30, 0.40, 4.35** Рыболовная школа для взрослых. **9.00, 12.50, 16.55, 1.10, 5.00** Сомы Европы. **9.35, 17.30, 5.35** Рыбалка 360. **10.05, 13.55, 18.00** Охота и рыбалка в. **10.35** Кодекс охотника. **12.20, 16.25, 20.30** Мир охотника. **13.25, 21.35, 1.40** Рыбалка сегодня XL. **14.25, 18.30** Егерский кордон. **21.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30 6.30 6.30, 10.25 10.25 10.25, 14.25 14.25 14.25, 18.30 18.30 18.30, 22.35 22.35 22.35, 2.50 2.50 2.50** ..И КОМПОТ! **6.45, 10.45, 14.45, 22.50, 3.05** Кашеварим. **7.00, 11.00, 15.00, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.30, 15.30, 19.35, 23.40, 3.50** Тихая моя родина. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 16.40, 20.40, 0.50, 4.50** Варенье. **8.55, 12.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Старинные русские усадьбы. **9.25, 13.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.30** Безопасность. **18.45** Какая дичь! **2.05** Вокруг сыра.

# Што вядома пра гісторыю вілейскай пошты

*Працяг. Пачатак у №23*

ВІЛЕЙКА

**Працягваем расказваць пра гісторыю вілейскай пошты.**


Будынак каля касцёла, дзе магла месціцца пошта.

## Будынак ля касцёла

Многія лічаць, што гэты будынак – плябанія. Але чаму тады над уваходам вісіць шыльда, а над вокнамі – «батарэя» ізалятараў, ад якой правады ідуць да тэлеграфнага слупа? Значыць, у будынку шмат тэлеграфных, а магчыма, і тэлефонных апаратаў. На фота касцёла 1918 года шыльда над уваходам у будынак ёсць, але значна меншых памераў. Улада памянялася. Але ізалятары на доме засталіся.

У зборніку 1900 года «Уся Расія. Руская кніга прамысловасці, гандлю, сельскай гаспадаркі і адміністрацыі: гандлёва-прамысловы адрас-каляндар Расійскай імперыі» паведамляецца, што паштовая станцыя ў Вілейцы належала Аляксандры (з Сулістроўскіх) Любанскай – маці Аляксандра Любанскага, галоўнага спонсара будаўніцтва касцёла ў Вілейцы. На гэта Любанскі ахвяраваў свой участак зямлі. Дазвол на будаўніцтва касцёла атрымалі ў 1906 годзе. Але ці на ўчастку знаходзілася паштовая станцыя? І чаму яна была ў прыватнай уласнасці? У той час існавала практыка здачы ў арэнду памяшканняў пад пошту. Нават Мінская губернская паштова-тэлеграфная кантора знаходзілася ў арандаваным будынку.

1 студзеня 1907 года ў горадзе адкрылася чыгуначная станцыя, і пачалася перавозка людзей і грузаў па чыгунцы, гэта значыць, транспартныя функцыі з пошты знялі. Не спатрэбіліся і стайні, адрыны, памяшканні для тавараў і грузаў. Застаўся толькі паштовы дом, але і яго паменшалі ў памерах. І тут раскрываецца яшчэ адна загадка. На малюнку-праекце будучага касцёла быў змешчаны здымак каталіцкай капліцы з подпісам obecna kaplica – гэта значыць, сучасная капліца на 1907 год. Знаходзілася яна на месцы будаўніцтва касцёла і была некалі часткай паштовай станцыі. Пра гэта кажа і знешні выгляд капліцы – адсутнасць вокнаў, вароты ў тарцы будынка. Капліцу гэту знеслі пасля пабудовы касцёла. Яна была часовым храмам, на перыяд будаўніцтва асноўнага. Але чаму не знеслі паштовы дом? Адказ на гэта пытанне знайшоўся ў артыкуле Івана Шалепіна з «Віленскага весніка» ў №№30 і 32 за 1896 год «Мінулае і сучаснасць горада Вілейкі: з нагоды стагоддзя»: «... З 1895 года ў Вілейцы функцыянуе гарадское спрошчанае грамадскае кіраванне, якое замяняе сабой гарадскую думу. Новае кіраванне прыняло ад старога 15 тысяч гарадскога доўгу, які складваецца часткамі яшчэ з саракавых гадоў. На працягу гадавога тэрміну новае кіраванне паспела выплаціць у кошт старога доўгу 227 рублёў...». Карацей, грошай у гарадскім бюджэце не было. Будаваць новае не было за што. Магчыма, гарадскія ўлады дамовіліся з Любанскім часова пакінуць стары будынак. Касцёл пабудавалі ў 1913 годзе, а летам 1914 года пачалася вайна і стала не да будаўніцтва. У 1924 годзе, пры Польшчы, будынка ля касцёла ўжо не было. Быццам усё сыходзіцца, але…

## Былі і пошта, і тэлеграф

На месцы касцёла ў Вілейцы ў пачатку 20 стагоддзя стаяла паштовая станцыя. Будынак выкарыстоўваўся як мінімум да 1918 года. А што з другой пабудовай, адзначанай на плане горада 1896 года? У артыкуле пра гісторыю Вілейскага вузла сувязі сказана, што тэлеграф у Вілейцы з'явіўся пасля рэвалюцыі. Але гэта адбылося значна раней, нават не пасля рэвалюцыі 1905 года. Тэлеграфная станцыя ў Вілейцы з'явілася ў 1883. Першапачаткова пошта і тэлеграф падпарадкоўваліся розным дэпартаментам МУС. І толькі пасля паштовай рэформы 1885 года стварылі адзінае кіраванне поштаў і тэлеграфаў. На аб'яднанне ўстаноў на месцах адводзілі пяць гадоў.

**Магчыма, тэлеграфная станцыя ў Вілейцы размяшчалася ў асобным ад пошты будынку, бо падпарадкоўвалася іншаму дэпартаменту.**



Праект-малюнак касцёла з фотаздымкам капліцы. 1907 год.

Гэта пацвярджае і спіс месцаў, адкуль можна было адправіць тэлеграму ў Вілейцы, апублікаваны ў «Памятнай кніжцы Віленскай губерні» за 1886 год. Там пазначана і тэлеграфная станцыя, і паштовая кантора. Аб'яднанне ведамстваў ужо пачалося, і апараты былі і на пошце, і на тэлеграфе.

Прыгадаем здымак будынка на скрыжаванні сучасных 17 Верасня і 1 Мая, зроблены ў 1918. Над акном дома мы бачым мноства ізалятараў, ад якіх правады ідуць да тэлеграфнага слупа, размешчанага перад будынкам. Сам слуп таксама ў ізалятарах. Значыць, у будынку шмат апаратуры. Магчыма, гэта і была тэлеграфная станцыя.

Пасля рэформы 1885 года ў горадзе трэба было стварыць адзіную паштова-тэлеграфную кантору. І яна была, па меншай меры, адміністрацыйная. За паштовымі станцыямі пакідаліся толькі транспартныя функцыі. Ад канца 19 і ў пачатку 20 стагоддзя ў горадзе згадваецца паштова-тэлеграфная кантора 4 класа. Каб атрымаць 4 клас, даходнасць установы павінна была складаць тры тысячы рублёў на год.

**Але паштовыя паслугі маглі аказвацца і на паштовай станцыі, і ў паштова-тэлеграфнай канторы.**

Версію пра два будынкі пацвярджае і даведнік па Літве і Беларусі, выдадзены ў 1909 годзе. У ім гаворыцца, што ў горадзе ёсць пошта і тэлеграф, праз коску, як дзве асобныя ўстановы: «Вілейка, павятовы горад Віленскай губерні, ёсць 2 царквы (адна ў будынку, адабраным для касцёла) – у цяперашні час будуецца касцёл. Гарадская павятовая школа для мужчын і жанчын, «казначэйства», паліцэйскі аддзел, суд, аптэка, пошта, тэлеграф і дамінуючая над горадам турма...».

**Зміцер ХАЦЕНЧЫК,**
**Вілейка.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

*Заканчэнне будзе.*

● КАЛЯНДАР

11 ЧЭРВЕНЯ
**1923.** Выйшла ў свет паэма **Якуба Коласа** «Новая зямля».

12 ЧЭРВЕНЯ
**1895.** У фальварку Кур'янаўшчына Вілейскага павета, цяпер Лагойскі раён, нарадзіўся **Леапольд Родзевіч**, беларускі драматург, тэатральны і нацыянальны дзеяч. У 1909 скончыў гарадское вучылішча ў Вілейцы. Загінуў у савецкай ссылцы ў 1938 годзе.

13 ЧЭРВЕНЯ
**1953.** У Мядзеле нарадзіўся **Іван Роўда**, філолаг, доктар філалагічных навук, прафесар. Аўтар падручнікаў па беларускай і рускай мовах для школьнікаў і студэнтаў.

14 ЧЭРВЕНЯ
**1900.** Нарадзіўся **Міхаіл Забэйда-Суміцкі**, спявак (лірычны тэнар), педагог. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, вучыўся ў Мілане, оперную кар'еру рабіў у Польшчы і Чэхаславакіі. У Маладзечне яго імем названая вуліца.



15 ЧЭРВЕНЯ
**1940.** У вёсцы Нікольцы Мядзельскага раёна нарадзіўся **Адольф Варановіч**, беларускі паэт, пісьменнік.
**1944.** У вёсцы Сідараўцы Валожынскага раёна нарадзіўся **Валянцін Вялічка**, беларускі дыпламат. Памёр у 2018 годзе.

16 ЧЭРВЕНЯ
**1875.** У Вільні нарадзіўся **Канстанцін Галкоўскі (Галкаўскас)**, літоўскі і беларускі кампазітар, дырыжор, педагог. Народны артыст Літоўскай ССР. Апрацоўкі і арыгінальныя хоры Галкоўскага ўваходзяць у рэпертуар Дзяржаўнай харавой капэлы Беларусі.

17 ЧЭРВЕНЯ
**1907.** На з'ездзе ў Вільні створаная Краёвая партыя Літвы і Беларусі. У 1908 годзе партыя знікла з палітычнай арэны.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Каб Вілейка не стала аграгарадком, а ў Беларусі не было вайны

## Пра што марылі летась жыхары рэгіёна

ВІЛЕЙКА
МАЛАДЗЕЧНА

**Летам мінулага года віляйчанка Вольга Шостак як сябра ініцыятыўнай групы аднаго з кандыдатаў у прэзідэнты шмат сустракалася з жыхарамі нашага рэгіёна.**

На сустрэчах жыхарам Маладзечна, Смаргоні, Вілейкі і навакольных мястэчак арганізатары раздавалі людзям чыстыя аркушы і прапаноўвалі напісаць тры мары: для сябе, для свайго горада ці вёскі і для Беларусі.




Пра што марылі землякі для сябе асабіста? З гэтых адказаў мы склалі воблака слоў. Чым буйнейшымі літарамі напісанае слова, тым часцей яно сустракалася ў марах.

### Мары – гэта такая гульня

– Гэта такая інтэрактыўная гульня. Я не раз карысталася ёй у педагогіцы, – тлумачыць Вольга. – Людзі вельмі адгукаліся, актыўна пісалі свае мары не толькі ў гарадах, але і ў невялікіх мястэчках, напрыклад, у Ільі, Вязыні. Некаторыя аркушы не аддавалі, забіралі з сабой. Частку мар жыхароў Вілейшчыны на адной з сустрэч я ўручыла старшыні Вілейскага райвыканкама **Алегу Бегунцу**, – прыгадвае Вольга.

Шмат аркушаў з марамі жанчына захавала і днямі перадала ў рэдакцыю «Рэгіянальнай газеты». І мы прапануем вам даведацца, пра што марылі людзі, якія мінулым летам прыходзілі на сустрэчы з ініцыятыўнай групай.

### Мары для свайго горада, вёскі

«Хачу, каб Вілейка не ператварылася ў занядбаны аграгарадок, квітнела і прыносіла добрыя даходы і пенсіі людзям, якія тут жывуць» – так выказаў сваю мару год таму нехта з вілейчукоў.

Жыхары Вілейкі дзяліліся таксама марамі пра добрыя дарогі, наяўнасць працоўных месцаў і прыбытковых прадпрыемстваў. Адзначалі, што хочуць, каб мясцовыя кіраўнікі былі больш крэатыўнымі, а маладыя людзі заставаліся ў горадзе, а не з'язджалі ў сталіцу і за мяжу.

Маладзечанцы марылі пра парковачныя месцы ў дварах шматпавярховак, горадаўтваральныя прадпрыемствы, магчымасць самарэалізацыі ў сваім горадзе і падзялілі мары вілейчукоў наконт годных заробкаў і працоўных месцаў.

Жыхары Ільі выказваліся за дзіцячую пляцоўку і безбар'ернае асяроддзе ў сваім мястэчку. Актуальнай была мара пра добрыя дарогі, клуб па інтарэсах для ільянцаў і годнае медыцынскае абслугоўванне.

У суседняй з Ільёй Вязыні год таму марылі, каб пасёлішча прыгажэла і квітнела, каб тут з'яўлялася вытворчасць і працоўныя месцы, развівалася інфраструктура.

Як аказалася, працоўныя месцы – таксама боль жыхароў Любані. Яшчэ тут марыць пра добраўпарадкаванне і рамонт жылых дамоў. Жыхары Іжы год таму хацелі якаснага медабслугоўвання.

### Мары для Беларусі

Тут землякі адзначалі свабоду слова, развітую эканоміку. Марылі пра тое, каб Беларусь паважалі ў свеце, каб былі перамены да лепшага, адбывалася паступовая беларусізацыя. Адны марылі пра годны ўзровень жыцця, пры якім не хацелася б з'язджаць з Беларусі, іншыя – пра тое, каб у краіне ніколі не было вайны.

Копіі аркушаў з марамі захоўваюцца ў рэдакцыі.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК. Інфаграфіка аўтара.**

# Дайджэст: Дзень народнага адзінства і папярэджанне НАТА

**Што новага адбылося ў Беларусі за апошні тыдзень, чытайце ў нашым аглядзе.**

### Уводзяць адказнасць за экстрэмізм

На Нацыянальным прававым партале апублікаваны закон «Аб змене кодэксаў па пытаннях крымінальнай адказнасці». Законам уведзеная крымінальная адказнасць:

– за экстрэмізм: стварэнне экстрэмісцкага фарміравання і ўдзел у ім, падрыхтоўку да ўдзелу, фінансаванне такой дзейнасці і садзейнічанне ёй;

– за неаднаразовае парушэнне парадку правядзення масавых мерапрыемстваў;

– за незаконныя збор і распаўсюджанне асабістых дадзеных.

Больш жорсткай будзе адказнасць за забойства міліцыянера або вайскоўца; за гвалт альбо пагрозу ў дачыненні да сілавікоў і суддзяў; за супраціў міліцыянеру; за публічную абразу прадстаўніка ўлады; за арганізацыю беспарадкаў альбо ўдзел у іх; за публічныя заклікі да правядзення несанкцыянаваных масавых мерапрыемстваў; за наўмыснае блакаванне дарог, што пацягнула вялікую шкоду. Таксама павялічаныя тэрміны за ўхіленне ад выплаты падаткаў: да сямі гадоў за злачынства, якое прычыніла шкоду ў буйным памеры (было да трох гадоў), да 12 гадоў – у асабліва буйным (было да сямі).

### Лукашэнка даручыў наладзіць вытворчасць стралковай зброі

Аб гэтым ён заявіў, заслухоўваючы даклад аб выніках работы і перспектывах развіцця ваенна-прамысловага комплексу. «Мы не збіраемся кагосьці перамагаць, – адзначыў Аляксандр Лукашэнка. – Мы павінны нанесці непрымальную шкоду саперніку і павінны абараніць самі сябе і свае сем'і. Без сваёй стралковай зброі… калі, не дай бог, нейкі канфлікт, вайна, кожная сям'я, тэрытарыяльныя органы павінны быць узброеныя ўсім комплексам стралковай зброі. Тады вораг, праціўнік будзе разумець, што з намі лепш не звязвацца».

### Заснавалі Дзень народнага адзінства

Указ падпісаны Аляксандрам Лукашэнкам. Дзень будзе адзначацца 17 верасня. Выхадным гэты дзень не будзе. «Выбар даты падкрэслівае пераемнасць пакаленняў, непахіснасць і самадастатковасць беларускай нацыі і дзяржаўнасці», – паведамляе тэлеграм-канал Пул Першага.

Нагадаем, што 17 верасня 1939 года пачаўся «вызваленчы паход» Чырвонай Арміі, у выніку якога Заходняя Беларусь увайшла ў склад БССР, а польская дзяржава канчаткова ліквідаваная.

### У НАТА папярэдзілі беларускія ўлады

НАТА перасцерагае прэзідэнта Расіі **Уладзіміра Пуціна** і Аляксандра Лукашэнку ад дэстабілізацыі на ўсходнім флангу альянсу. Пра гэта сказаў генеральны сакратар альянсу **Енс Столтэнберг**. Па словах Столтэнберга, краіны-сябры НАТА сур'ёзна занепакоеныя цесным узаемадзеяннем паміж Пуціным і Лукашэнкам, якое назіраецца апошнія месяцы.

Ён адзначыў, што НАТА ўважліва сочыць за тым, што адбываецца ў Беларусі, і альянс у надзвычайнай сітуацыі гатовы ўстаць на абарону саюзнікаў пры любым выглядзе пагроз, калі такія будуць зыходзіць з Мінска і Масквы. Столтэнберг таксама сказаў, што Беларусь становіцца «усё больш і больш залежнай» ад Расіі, у сувязі з чым дзеючае пагадненне аб партнёрстве з Мінскам нядаўна было значна скарочанае, і будзе і далей пераглядацца.

**Паводле БелТА, pravo.by, welt.de.**



Аўтарамі гэтай рубрыкі мы запрашаем чытачоў і герояў публікацый. Яны складаюць спіс любімых твораў мастацтва і расказваюць, чаму менавіта гэтыя творы зачапілі іх. Няхай у вашых вечарах з таршэрам будзе больш вартых увагі твораў.

# Як адшукаць у сабе супергероя і ўбачыць чараўніцтва свету

**У сённяшнім выпуску «Таршэра» – педагог і актывістка Ірына Тархан. Менавіта яна арганізавала ў Маладзечне праект «Арт-двор», у межах якога дзверы пад'ездаў размалявалі карцінамі. А таксама спрычынілася да розных гарадскіх актыўнасцяў, напрыклад, стварэння Вуліцы стрыт-фуда. А цяпер мы папрасілі Ірыну расказаць пра свае самыя любімыя творы мастацтва.**

Неяк у адной дзіцячай гульні было пытанне: якія пяць рэчаў вы возьмеце ў космас? Я, не задумваючыся, адказала – кнігі. Але так як можна было ўзяць усяго пяць рэчаў, адну я брала кнігу мастацкую, а другую – чысты нататнік, каб запісваць успаміны аб прачытаных раней кнігах, пісаць назіранні і дзяліцца імі.

## Кнігі

Калі расла старэйшая дачка, Арына, я думала, што ў мяне манія купляць кнігі. Я люблю купляць кнігі, чытаць іх, дзяліцца імі. Калі даведалася, што сярод сябровак і знаёмых я не адна такая, тады мяне адпусціла. Люблю прыгожыя кнігі, ілюстраваныя. Можа, адсюль любоў да дзіцячай літаратуры. Вельмі зручна мець падрастаючага сына і рабіць выгляд, што кнігі купляеш яму.

З дзіцячай літаратуры аддаю перавагу нарвежцам, фінам, англічанам. Першую казку пра **Мумі-троляў** Туве Янсан напісала яшчэ ў 1939 годзе. Неяк Туве пасварылася з братам, ён прачытаў лекцыю, спасылаючыся на Канта, а яна вазьмі і намалюй на сцяне вулічнага туалета пачварную істоту, якую толькі магла ўявіць. У 15 гадоў Туве з'ехала вучыцца жывапісу ў Стакгольм, жыла ў сям'і сваякоў. Па начах любіла паесці. Аднойчы застаў Туве ноччу на кухні дзядзька і расказаў гісторыю пра троляў Мумі, што жывуць на кухні за плітой, выходзяць з хованкі і дзьмуць на абжораў ледзяным паветрам у патыліцу.

Вельмі люблю кнігі нарвежскай пісьменніцы **Анне-Катрын Вестлі**. Сярод іх апавяданні з серыі «Тата, мама, бабуля, восем дзяцей і грузавік». Яны настолькі прасякнутыя любоўю, клопатам з боку аўтаркі. «Жыла-была вялікая, вельмі вялікая сям'я: тата, мама і цэлых восем дзяцей... І яшчэ з імі жыў невялікі грузавік, які яны ўсе вельмі любілі. Яшчэ б не любіць – грузавік карміў усю сям'ю!».

Яшчэ адна мая любоў з дзіцячай літаратуры – гэта кнігі **Джуліі Дональдсан**. Груфала – гэта ўжо класіка. Маленькае мышаня ідзе праз дрымучы лес і, каб выратавацца ад лісы, савы і змяі, выдумляе страшнага звера груфалу – свайго сябра, які вельмі любіць есці ліс, соў і змей. І, да свайго здзіўлення, сустракае тое, што выдумаў.

**«Медзведзяня Падынгтан» Майкла Бонда** – гэта маё асобнае каханне. Немагчыма не палюбіць гэтага кудлатага, нязграбнага героя, які прыбыў у Лондан на Падынгтонскі вакзал з дрымучага Перу. З гэтым мядзведзем не засумуеш: дзе ён, там ніколі не бывае сумна!

Не магу прайсці міма кніг майго савецкага дзяцінства. Вельмі люблю вясёлыя апавяданні **Мікалая Носава**. Гэта і «Фантазёры», «Латка», «Метро», «Жывы капялюш». А свет Нязнайкі – асобны Сусвет. Успамінаю забаўныя апавяданні нашага земляка беларуса **Паўла Місько**: «Нававёслы», «Прыгоды Бульбобаў».

Пяройдзем да больш сур'ёзнай літаратуры. Гадоў шэсць таму пазнаёмілася з творчасцю **Макса Фрая**. Праніклася «Казкамі старога Вільнюса». Дзіўна, як пераплятаюцца светы ў гэтых творах. Першую частку «Казак» прачытала напярэдадні паездкі ў Вільню. Кніга стала нібы маім гідам, я гуляла ўпершыню па горадзе, ведаючы яго знутры, пазнаючы вуліцы, дамы, уяўляла герояў.

**«Кніжны злодзей», Маркус Зусак.** Студзень 1939 года. Германія. Краіна, затаіўшая дыханне. Ніколі яшчэ ў смерці не было столькі працы. А будзе яшчэ больш.

Кніга пра жыццё, расказанае смерцю. Кніга пра неба колеру попелу і пра гукі акардэона ў склепе. Гісторыя пра кніжнага злодзея, прачытаная з усмешкай праз слёзы.

**«Есці, маліцца, кахаць», Элізабэт Гілберт.** Кніга пра задавальненні ў жыцці. Пра тое, як можна шукаць радасць і шчасце, дзе не чакаеш, і як не трэба шукаць там, дзе яго не будзе па азначэнні. З гераіняй гэтай кнігі ты падарожнічаеш з Амерыкі ў Італію, дзе атрымліваеш асалоду разам з ёй ад італьянскай кухні. Затым едзеш у Індыю, трапляеш у ашрам, пагружаешся ў медытацыі, співаеш мантры. А далей мы адпраўляемся на Балі. Ну і, вядома ж, каханне. А як без яго ў гэтым свеце!

**Фрэдрык Бакман.** Гэта маё адкрыццё за апошні год. Вылучыць адну кнігу і сказаць, што падабаецца менавіта адна, проста немагчыма. Бакман так дзіўна піша кнігі, яму ўдаецца мяняць стыль, па-рознаму расказваць пра жыццё, тонка заўважаць чалавечыя душы. Яго героі – гэта і самотны, вечна незадаволены Уве, але з вялікім добрым сэрцам. Эльса з «Бабуля загадала кланяцца і перадаць, што просіць прабачэння» – непадобная на сваіх аднагодкаў сямігадовая дзяўчынка. Яе лепшы сябар – бабуля, якая назаўжды сыходзіць у Прасанье, свет выдуманы ёй і падораны ўнучцы. Эльсе дастаюцца лісты ад бабулі, якія яна павінна перадаць адрасатам і папрасіць прабачэння ад яе імя.

Героі кнігі «Трывожныя людзі» – гэта мы, кожны з нас, са сваімі слабасцямі і сваім светам. Вылучу «Мядзведжы кут» і яго працяг «Мы супраць вас».

Скажу адно, не рэкамендую чытаць кнігі Бакман нанач. Апошнія 150 старонак яго кніг чытаюцца да канца і як правіла да глыбокай ночы. І бліжэй да раніцы ты яе заканчваеш аналізаваць.

**«Мая сястра жыве на камінная паліцы», Анабэль Пітчар.** Кнігу праслухала ў аўдыёфармаце за суткі. Сумная і адначасова добрая і мілая гісторыя, расказаная 11-гадовым хлопчыкам. Трагедыя сям'і падзяліла іх жыццё на «да» і «пасля», і старэйшая сястра Джэймі «пасяляецца» ў выглядзе праху жыць на камінная паліцы. Хлопчык верыць, што шчасце абавязкова вернецца ў іх сям'ю. Для гэтага ён гатовы на многае, нават заваяваць вядомасць. Дзіўная добрая гісторыя пра нечаканае сяброўства, добрага ката і супергерояў, якія жывуць у кожным з нас.

Падзараджаюся матывуючай літаратурай. Гэта і кніга «Нумар 1. Як стаць лепшым у тым, што ты робіш» Ігара Мана. «Жыць не спяшаючыся» Брук Макэлры, «45 татуіровак асобы» Максіма Батырава. Вучуся жыццю і правілам узаемадзеяння з сусветам праз «Новую кнігу неабмежаваных магчымасцяў» Пэм Гроўт, «Сілу» Ронды Берн.



Фота забяспечанае Ірынай ТАРХАН.

Маладзечанка Ірына Тархан.

## Фільмы

Мой любімы фільм – **«Амелі»**. Цудоўная гісторыя пра дзяўчыну, якая жыве на Манмартры ў Парыжы, якая працуе ў кафэ «Два млыны», якая марыць пра сапраўднае каханне. Амелі знаходзіць асалоду ў маленькіх паўсядзённых радасцях: апускаючы руку ў мяшок з фасоляй, пускаючы блінцы па канале Сен-Мартэн. Выпадкова Амелі знаходзіць у сваім ванным пакоі тайнік, у якім ляжыць бляшаная скрынка з дзіцячымі скарбамі. З гэтага моманту жыццё галоўнай гераіні мяняецца.

Любімы мульт-фільм – **«Спірыт: Душа прэрый»**. Гісторыя дзікага мустанга, злоўленага жорсткімі кавалерыстамі на Дзікім Захадзе. Прыгожы мультфільм з выдатным саўндтрэкам у выкананні Браяна Адамса.

## Музыка

Калі казаць пра музыку, то гэта **Reamonn** – нямецкі поп-рок-гурт. Іх першая песня Supergirl стала хітом і ўварвалася ў маё жыццё, прынесла шмат адкрыццяў і здзяйсненняў.

**Depeche Mode** – брытанская рок-група, якая ўтварылася ў 1980 годзе. Група стварыла свой стыль у жанрах электроннай і рок-музыкі. Любімы альбом Exciter, любімыя хіты – Personal Jesus, Dream On, Freelove.

Люблю творчасць **Ванесы Парадзі**, яе чароўны голас.

## Мастакі

**Ван Гог**. «Касачы», «Сланечнікі», «Зорная ноч», «Начная тэраса кафэ» – гэта толькі першае, з чым асацыюецца аўтар. Цікавае яго жыццё, лёс, зачароўвае сама тэхніка малюнка.

Мне цікавая творчасць нашай зямлячкі **Надзі Букі**. Для мяне гэта чалавек-космас, які стварыў свой папяровы свет – буцінанку. Мне сімпатычны яе герой Піглас – цалкам незвычайная істота, што сілкуецца драўлянымі прышчэпкамі і пяшчотнымі пачуццямі.

Калі казаць пра землякоў, то не магу не згадаць **Bazinato** – чалавек-загадка, чалавек, які тонка адчувае свет прыроды. Яго героі ўрываюцца ў наша жыццё, яго выставы пакараюць сэрца. А нават у маім двары ёсць след Bazinato.

# Працавала з брыльянтамі і ў банку, стала рабіць перманентны макіяж

## Што раздражняе майстра са сферы прыгажосці і як стаць ідэальным кліентам

**У кожнай працы ёсць моманты, якія робяць яе не такой прыемнай, як можа падавацца. Разумець такія моманты важна, каб камунікацыя з прадстаўнікамі розных спецыяльнасцяў была як мага больш камфортнай.**

Сёння мы паразмаўлялі пра асаблівасці працы спецыяліста па перманентным макіяжы **Надзеяй Крайнік**. Перманентны макіяж атрымліваюць, калі закладаюць фарбавальнік у верхнія слаі скуры з дапамогай іголкі, трымаецца ад некалькіх месяцаў да некалькіх год.

### Чатыры месяцы без выхадных

Першая адукацыя, якую атрымала Надзея, – «Праваднік пасажырскіх вагонаў. Касір білетны». У гэтай прафесіі дзяўчына адпрацавала два гады. Ездзіла толькі на далёкія рэйсы па Расіі.

– Неверагодна цяжкая праца, але рамантычная, – дзеліцца Надзея. – Часам даводзілася замяняць калег і ездзіць у Маскву. Кожны раз, калі прыязджала ў гэты горад, хацелася застацца там назаўсёды.

Узважыўшы ўсе за і супраць, дзяўчына вырашыла пераехаць у Расію. Атрымала пасведчанне на права жыхарства ў Смаленску – у меншым горадзе і дакументы зрабіць прасцей. Паралельна атрымала там другую адукацыю – «Агранршчык алмазаў у брыльянты». Гэтай адказнай і карпатлівай прафесіі аддала паўтара года.

– Але родны горад не адпускаў, – расказвае Надзея. – Давялося вярнуцца. Таму што дом там, дзе цябе чакаюць і сумуюць.

Вярнуўшыся ў Маладзечна, дзяўчына ўладкавалася ў ювелірную краму і адначасова барбершоп, працавала па графіку 2/2.

– Два дні на адной працы, два дні на другой. Працавала чатыры месяцы без выхадных. Знаёмыя прапанавалі перайсці на іншую і адзіную працу з графікам 5/2 у банкаўскую сферу. Там – добрыя ўмовы і стабільны заробак. Канешне, пагадзілася на пасаду «Спецыяліст аддзела продажаў».

### Як прыйшла ў перманентны макіяж

Праз месяц дзяўчына зразумела, што ў банку ёй сумна, трэба займацца чымсьці новым. Прыгадала, што з дзяцінства вельмі любіла фарбаваць бровы і проста апантаная імі. Пайшла вучыцца на бравіста, але працу не кідала.

– Мяркую, што дзякуючы прафесіі правадніка навучылася камунікаваць з рознымі тэмпераментамі людзей, вытрымцы і стойкасці, – разважае Надзея. – А дзякуючы працы з брыльянтамі – карпатлівасці, уседлівасці і перфекцыянізму. Бровы былі для мяне хобі, і я ніколі не магла падумаць, што гэта перарасце ў справу ўсяго майго жыцця. Імкненне пастаянна рухацца і развівацца і прывяло ў сферу перманентнага макіяжу.

Надзея расказвае, як у сярэднім пабудаваны яе дзень. 50% часу займае праца, 10% – займаецца запісваннем кліентаў і складаннем графіка, 10% – вядзе сацыяльныя сеткі, 5% – трэнажорны зал. 25% займае сон, хаця, дадае Надзея, часам падаецца, што зусім не спіць.

### Што раздражняе майстра і як стаць ідэальным кліентам

Хамства, нахабнасць, некультурнасць, нетактоўныя паводзіны – па меркаванні маладзечанкі, усё гэта раздражняе ўсіх майстроў у сферы прыгажосці.

90% кліентаў, калі прыходзяць да Надзеі, не ведаюць, чаго хочуць. Гэта ніяк не напружвае майстра, і тым больш не раздражняе. Таму што ўсе як адна кажуць «Я табе давяраю свой твар, рабі, як хочаш, толькі хутчэй пакладзі мяне на кушэтку паспаць».

– Мне надзвычай прыемна чуць гэта заўсёды, але ўсё роўна мучу кліентаў пытаннямі. Некалькі правільных навадных пытанняў, і яны паўгадзіны могуць расказваць без перапынку, што хочуць.

Здараецца такое, што кліенты запісваюцца і не прыходзяць.

– Без гэтага ніяк. Але, на шчасце, з усімі патрабаваннямі і правіламі кліент знаёміцца перад наведваннем на працэдуру. У мяне з гэтым вельмі строга, адмены бываюць вельмі рэдка. Калі ў кліента ўважлівая прычына, прапаную перанесці запіс. Звычайна пагаджаюцца на такі варыянт.

Фота забяспечанае Надзеяй КРАЙНІК.

Надзея Крайнік.

Вынік працы Надзеі кліенты ніколі не крыткавалі.

– Усе вельмі рады пасля працэдуры, – расказвае маладзечанка. – Я сама прапаную кліентам знайсці хоць нейкія касякі. А калі знаходзяць, то выпраўляем адразу ж. Для мяне ў першую чаргу важна, каб кліент быў задаволены. Некаторыя нават плачуць і абдымаюць мяне, што яшчэ больш натхняе на працу і поспех!

Зусім іншая справа з цаной – вось яе крытыкуюць.

– Мне не вельмі прыемна чуць, калі кажуць, колькі я павінна браць за сваю працу, – дзеліцца майстар. – Прымаю ўсё блізка да сэрца, але адказваю спакойна: «Вы заўсёды можаце знайсці майстра, які бярэ танней». Наколькі я ведаю, мая цана за перманент вышэй за сярэднюю ў горадзе.

Якасць працы кліент можа сапсаваць, толькі калі не выконвае рэкамендацыі. Перад працэдурай падпісваюць пагадненне, паводле якога кліент бярэ адказнасць на сябе за невыкананне правілаў.

Ідэальны кліент для майстра – той, хто прыходзіць своечасова. Папярэджвае аб адмене-пераносе загадзя. Каторы скажа праўду пра аднасіны да выніку асабіста мне. Нават калі штосьці не так, паспрабуем выправіць гэта разам.

– Асноўная частка маіх кліентаў – шчырыя, адкрытыя людзі. Спадзяюся, гэта не зменіцца. Я сябе ў іншай прафесіі цяпер не ўяўляю. Вольны час усё роўна праводжу ў кабінеце. Люблю сваю працу да шаленства. Гатова спусціць усе зробленыя грошы ў матэрыялы і сэрвіс.



Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# Колькі каштуе гадаваць сабаку

**Падчас пандэміі, паводле статыстыкі Google, жаданне завесці дамашнюю жывёлу павялічылася на 62%. У сувязі з гэтым аналітычны аддзел Picodi.com вырашыў даведацца, з якімі выдаткамі сутыкаюцца ўладальнікі сабак.**

Заводзячы сабаку, спярша прыйдзецца сутыкнуцца з разавымі выдаткамі, якія мы падзялілі на дзве групы: набыццё дамашняй жывёлы і неабходныя пакупкі.

**Сабаку можна ўзяць з прытулку або купіць у заводчыка. За гадаванца з прытулку, як правіла, плаціць не трэба, а вось сярэдняя цана шчанюкоў самых папулярных у Беларусі парод – 600 рублёў.**

Да пашыранага набору мы аднеслі тры паслугі, якія не абавязковыя, але становуча ўплываюць на здароўе і бяспеку гадаванца: кастрацыя/стэрылізацыя, чыпіраванне і курсы дрэсіроўкі. Усё гэта можа абысціся ў 482 рублі.

Неабходныя для кожнага сабакі такія рэчы, як ашыйнік, шлейка, ланцужок, адраснік, ляжанка, шчотка і дзве міскі (для вады і ежы). Сярэдняя цана такога набору складае 238 рублёў. У сваю чаргу, спецыяльныя шлейкі і рамяні бяспекі для перавозкі чацвераногага сябра ў аўтамабілі, адзенне, якое абароніць ад холаду і дажджу, наморднік, светлавы ашыйнік і пераноска абыдуцца ў дадатковыя 690 рублёў.

Рэгулярныя выдаткі, якія звязаныя з утрыманнем сабакі, мы падзялілі на шэсць катэгорый:

- харчаванне;
- догляд;
- цацкі;
- абследаванне ў ветэрынара;
- падаткі;
- дадатковыя паслугі.

Каб забяспечыць правільнае харчаванне, прыйдзецца выдаткаваць ад 600 рублёў у год (у выпадку маленькіх сабак) да 1 700 рублёў (для буйных парод). Калі ж гаспадар рашыцца на корм прэміум-класа, сярод якога можна знайсці мокры корм, без курыцы і травы, то і кошт такой дыеты будзе вар'іравацца ад 1 500 да 5 300 рублёў у год.

**У выдаткі, звязаныя з доглядам за сабакам, мы ўключылі рэгулярны прыём глістагонных сродкаў (дэгельмінтызацыя 2 разы на год), сродкі ад кляшчоў і блох, шампунь і гадавы запас пакетаў для сабачых адходаў. Усё разам будзе каштаваць 420 рублёў.**

У пашыраны пакет увайшло наведванне спа-салона для сабак, каб памыць, пастрыгчы і вычасаць гадаванца. Пры ўмове наведвання салона раз у два месяцы неабходна заплаціць яшчэ 630 рублёў у год.

**Кожнаму сабаку патрэбныя цацкі: ціўкалкі, канаты для перацягвання і мячыкі. Аднак гэтыя цацкі не праслужаць вечнасць, і заплаціць за іх давядзецца каля 100 рублёў у год. Таксама можна набыць развіццёвую цацку за 41 рубель.**

Не варта забываць пра здароўе гадаванца. Штогадовая прышчэпка ад шаленства і агляд у ветэрынара абыдуцца ў 39 рублёў, пры ўмове, што сабака здаровы. Часта даводзіцца браць у разлік працэдуру чысткі зубоў (дадатковыя 30 рублёў), бо агульнадаступныя сродкі ад зубнога каменя ў сабак не заўсёды аказваюцца эфектыўнымі.

**У катэгорыі фармальнасцей мы выдзелілі толькі падатак, звязаны з валоданнем сабакам. У Беларусі максімальны памер гэтага падатку роўны 116 рублёў у год, хоць варта адзначыць, што яго памер залежыць ад пароды сабакі.**




Стандартны набор
Пашыраны набор

**РАЗАВЫЯ ВЫДАТКІ**

Купля сабакі
Чыпіраванне
Стэрылізацыя/кастрацыя
600 р. + 482 р.

Неабходныя пакупкі
238 р. + 690 р.

**РЭГУЛЯРНЫЯ ВЫДАТКІ**
(ШТОГОД)

Корм
600 р. + 900 р.
1 700 р. + 3 600 р.

Догляд
415 р. + 630 р.

Цацкі
навучальныя
100 р. + 41 р.

**РАЗАМ:**
от 1 270 р.
до 2 370 р.
штогод

ПАШЫРАНЫ НАБОР:
от 3 420 р.
до 7 220 р.
штогод

Ветэрынар
39 р. + 30 р.

Падатак
116 р.*

Дадатковыя паслугі
Страхоўка
549 р.

** Максімальная сума ў 2021 годзе ў Беларусі. Памер падатку залежыць ад таго, дзе вы пражываеце і/або пароды вашага сабакі.

Пашыраны набор ўключае ў сябе дадатковыя тавары і паслугі і/або тавары вышэйшай коштавай катэгорыі.
Крыніца: Picodi.com, чэрвень 2021 г.
picodi

Апошняя катэгорыя – дадатковыя паслугі: догсітар, гатэль для сабак і страхоўка (549 рублёў). Хоць гэтыя паслугі неабавязковыя, яны могуць палегчыць жыццё, напрыклад, на час адпускной паездкі або ў выпадку хваробы гадаванца.

Такім чынам, кошт «стандартнага» пакета, які ўключае толькі самае неабходнае, вар'іруецца ад 1 270 рублёў (у выпадку маленькіх сабак) да 2 370 рублёў (для буйных парод). У сваю чаргу, фінансавыя затраты на пашыраны пакет у тры разы большыя (3 420 рублёў у выпадку маленькіх парод і 7 220 рублёў у выпадку буйных сабак).

**Паводле picodi.com.**

*У наступным нумары чытайце, якія выдаткі чакаюць уладальнікаў катоў.*

# 12-гадовая смаргонка стала лепшым абаронцам на першынстве Беларусі па баскетболе

**У Аксаны Віткоўскай са Смаргоні тры дачкі. Старэйшая, Ганна, займалася дзюдо, а цяпер вучыцца ва ўніверсітэце фізічнай культуры ў Мінску. Сярэдняй, Алесі Талькоўскай, усяго 12, і яна займаецца баскетболам і навучаецца ў мінскім вучылішчы алімпійскага рэзерву. «Рэгіянальная газета» пагутарыла з маці Алесі пра любоў дачкі да баскетбола і пра яе поспехі ў гэтым відзе спорту.**

### «Спорт – гэта яе»

Аксана ўспамінае, што калі Алесі было ўсяго пяць гадоў, то яна прабегла на смаргонскім стадыёне дзевяць кругоў і ні разу не спынілася. Дзяўчынка хадзіла разам са старэйшай сястрой на спартыўныя секцыі.

**– Было бачна адразу, што спорт – гэта яе. Мы доўга думалі, куды яе аддаць. У выніку старэйшая дачка параіла аддаць у баскетбол, – успамінае Аксана.**

Алеся Талькоўская пачала займацца баскетболам у шэсць год. З першым трэнерам у Смаргоні атрымалася патрэніравацца толькі адзін год, пасля ён з'ехаў у Маскву. Затым каманду маладых дзяўчат расфарміравалі, а Талькоўская трапіла да трэнера **Валера Юрчанкі**.

– І ён гэта ўбачыў у ёй. Яна ж была самая маленькая. Ён заўсёды ў яе верыў і ведаў, што яна пойдзе далёка.

Ужо год Алеся вучыцца ў вучылішчы алімпійскага рэзерву ў Мінску. Па словах маці, дачка не толькі добра гуляе ў баскетбол, але і выдатніца па вучобе. Талькоўская бярэ заданні нават на спаборніцтвы, каб не адставаць па прадметах.

Маці Алесі прызнаецца, што адпускаць у Мінск дачку было не страшна:

**– Яна вельмі рана стала самастойнай. Па-першае, разам з ёй са Смаргоні ехалі яшчэ дзве дзяўчыны. Па-другое, у Мінску вучыцца старэйшая сястра, якая ніколі яе не пакіне ў бядзе.**

### «Баскетбол ужо не кіне»

Маці дзяўчыны ўпэўнена, што дачка ніколі не кіне баскетбол. Па яе словах, адзіны страх для Алесі цяпер, што смаргонскія дзяўчаты, з якімі яны пачыналі гуляць, могуць забраць дакументы з мінскага вучылішча. Маці заўсёды ёй кажа, што ў яе ёсць і трэнеры, і партнёры па камандзе.

Талькоўскую цяпер трэніруюць **Алена Іваноўская** і **Мікалай Бузлякоў**. Аксана ўпершыню пазнаёмілася з трэнерамі на першынстве Беларусі ў гэтым красавіку.

– Яны рукамі і нагамі за Алеську. Кажуць, што яна слухае і чуе нас. Маўляў, з такімі дзецьмі вельмі прыемна працаваць, – дзеліцца маці дзяўчынкі.

Напрыканцы красавіка ў Смаргоні прайшло першынство Беларусі па баскетболе. Алеся Талькоўская выступала ў камандзе Гродзенскай вобласці.

**Трэніраваў гродзенскую абласную каманду Валер Юрчанка, які быў першым трэнерам дзяўчыны.**

Зборная Гродзенскай вобласці не прайграла ні адной сустрэчы і заняла першае месца, а Талькоўская была прызнаная лепшым абаронцам турніру. Маці прызнаецца, што на матчы дачкі ў родным горадзе прыходзілі паглядзець сваякі і блізкія.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




Фота забяспечаныя Аксанай ВІТКОЎСКАЙ.

Алеся Талькоўская з кубкамі.




Узнагароды Алесі.

---

## «Астравец» забіў 18 галоў Скідзелю

6 чэрвеня ў другой лізе ў Гродзенскім дывізіёне прайшоў чацвёрты тур. «Астравец» згуляў са скідзельскім «ФСК Гродзенскі». Астраўчане перамаглі з лікам **18:0**.

Забівалі **Дзмітры Купнеўскі** (3 галы), **Кірыл Бязносік**, **Аляксей Хадневіч** (5 галоў), **Сяргей Новік** (2 галы), **Аляксей Кашэўскі**, **Георгі Чытанава**, **Мікіта Букаткін**, **Ягор Кашко**, **Аляксандр Буцько**, **Аляксей Клачкевіч**, **Уладзіслаў Знак**.

Астравецкая каманда займае першае месца ў турнірнай табліцы Гродзенскага дывізіёна другой лігі. 12 чэрвеня «Астравец» згуляе з камандай "Граніт-Агра" з Дзятлава.

**Настасся УТКІНА.**

## Маладзечанскія футбалісты забілі 14 галоў у гульні з «Крупкамі»

2 чэрвеня ў трэцім туры другой лігі маладзечанскія футбалісты перамаглі «Крупкі» **14:0**.

Галы забівалі: **Сяргей Тарчыла** (5 галоў), **Мікіта Мятліцкі** (4 галы), **Дзмітры Сярогін** (4 галы), **Раман Вінцукоўскі** (1 гол).

6 чэрвеня маладзечанцы перамаглі чэрвеньскі «Колас» – **3:0**. **Артур Сарамаха** стаў аўтарам хет-трыку. «Маладзечна» знаходзіцца на чацвёртым месцы ў Мінскім дывізіёне «Поўнач».

**Настасся УТКІНА.**

## Лукашэнка тэлефанаваў Шаранговічу, каб той згуляў за зборную

**Аляксандр Лукашэнка** тэлефанаваў хакеісту з вілейскімі каранямі **Ягору Шаранговічу**, каб ён згуляў за нацыянальную каманду на чэмпіянаце свету, што праходзіць у Рызе.

Аб гэтым паведаміў генеральны менеджар «Нью-Джэрсі Дэвілз» **Том Фіцджэральд**. Нагадаем, што Шаранговіч выступае за «Дэвілз» з сезона-2021, некалькі гадоў таму беларускага хакеіста падпісаў амерыканскі клуб.

– Калі табе тэлефануе прэзідэнт краіны і просіць згуляць, ты робіш гэта, – падзяліўся Фіцджэральд.

Нагадаем, беларуская зборная завяршыла выступленне на чэмпіянаце свету па хакеі. Хакеісты пад кіраўніцтвам **Міхаіла Захарава** не выйшлі з групы. У групавым этапе беларусы перамаглі толькі Швецыю. Каманда заняла выніковае 15 месца.

**Паводле nhl.com.**

## «Ашмяны» прапусцілі восем галоў

5 чэрвеня ў чацвёртым туры другой лігі «ФСК Ашмяны» прайгралі ваўкавыскай «Змене».

За Ваўкавыск забівалі **Яўген Марка**, **Павел Пратасевіч**, **Мацвей Арцюх**, **Уладзіслаў Курэцкі**, **Вадзім Апуневіч**, **Раман Кісель**, двойчы **Ігар Астапчук**.

Ашмянская каманда займае 10 з 12 месцаў у турнірнай табліцы Гродзенскага дывізіёна другой лігі. 12 чэрвеня «ФСК Ашмяны» згуляюць з «Мастамі».

**Настасся УТКІНА.**

## Ашмянка заняла трэцяе месца на чэмпіянаце Беларусі па лёгкай атлетыцы

Ашмянка **Карына Несцерава** заняла трэцяе месца на чэмпіянаце Беларусі па лёгкай атлетыцы.

Несцерава ўзяла бронзавы медаль за дыстанцыю ў 100 метраў, яна пераадолела дыстанцыю за 12,08. Спартсменка саступіла лідару **Кацярыне Жывеевай** усяго 0,47 секунды.

**Настасся УТКІНА.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
3. Адзінка вымярэння напружання электрычнага току.
4. Прыстасаваная для язды і хадзьбы паласа зямлі, якая злучае асобныя пункты мясцовасці.
5. У архітэктуры – сукупнасць упрыгажэнняў.
7. Паглынаць спецыяльнымі органамі кісларод, неабходны для жыццядзейнасці арганізма.
8. Спецыяльнае памяшканне, дзе мыюцца і парацца.
9. Орган зроку.
10. Знак для абазначэння ліку.
11. Выпраўленне, падрысоўванне фотаздымка або негатыва.
13. Жывёлы, часцей аднаго віду, якія пасуцца або ўтрымліваюцца разам, гуртам.
15. Прыяўляць клопаты, турбавацца.
16. Вялікая маса снегу, лёду, які падае з гор.
18. Канчатковыя паказчыкі якіх-небудзь дзеянняў, з'яў.
19. Поўнач, паўночны напрамак.
21. Зззянне ў выглядзе круга вакол галавы як сімвал святасці.
23. Прыстасаванне для ўключэння асвятляльных, награвальных і іншых прыбораў у электрычны ланцуг.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Пасудзіна цыліндрычнай формы з дужкай, у якой носяць або захоўваюць ваду і іншыя вадкасці.
2. Навучэнец, які мае найлепшыя адзнакі па ўсіх прадметах вучэбнага плана.
5. Вучэбная або праверачная пісьмовая работа па правапісу – запісванне тэксту пад дыктоўку з далейшым аналізам правільнасці яго напісання.
6. Запаленне нерва, якое развіваецца пры яго пашкоджанні, пераахаладжэнні цела, у выніку інфекцыйнай хваробы.
9. Вадкасць з рэзкім кіслым смакам, ужываецца як вострая прыправа ў ежу, для кансервавання прадуктаў.
10. След ад дажджу на зямлі.
11. Кароткі выклад зместу, сутнасці артыкула, прамовы.
12. Крэдытная ўстанова для выдачы грашовай пазыкі за пэўны працэнт пад заклад рэчаў ці рухомай маёмасці.
14. Янка Купала: «А што яны нясуць на худых плячах, На руках ў крыві, на нагах у лапцях? – Сваю ...».
17. Цвёрда ўстаноўлены парадак, абавязковы для ўсіх членаў якога-небудзь калектыву.
19. Тварам уніз.
20. Раўніна, якая знаходзіцца не вышэй за 200 метраў над узроўнем мора.
22. Пра што кажа персанаж «Гульні тронаў» Дэйенэрыс Таргарыен: «Не мне вы абавязаны (ёй). Я не ў сілах даць яе вам – бо ваша (яна) не належыць мне. Яна належыць вам – і толькі. Калі вы хочаце яе вярнуць – вазьміце яе самі».

## Адказы на крыжаванку з №23

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Выраз. 3. Сеанс. 4. Сервітут. 6. Ластоўскі. 9. Сіметрыя. 11. Самлець. 14. Ванна. 17. Наўмысна. 18. Зона. 19. Дым. 20. Зноска. 23. Валейбол. 25. Кіт. 26. Дуга.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 2. Золка. 5. Дыспут. 7. Прывілея. 8. Сімптом. 10. Спектр. 12. Сведка. 13. Налета. 15. Зноў 16. Драпіна. 17. Нуль. 18. Знянацку. 21. Сасіска. 22. Насенне. 24. Вакуум.

## ● ГАРАСКОП НА 11-17 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** У спрэчках з калегамі ў гэты перыяд лепш пайсці на кампраміс. Ваша падатлівасць у далейшым залічыцца. Больш уважліва стаўцеся да родных. Магчыма, ім спатрэбіцца дапамога, але яны пасаромеюцца пра гэта папрасіць.



**ЦЯЛЕЦ.** Паспрабуйце да канца тыдня завяршыць справы. Пазней вам будзе цяжэй гэта зрабіць. У выхадныя прысвяціце час адпачынку. Напрыклад, па вечарах хадзіце на прагулку.



**БЛІЗНЯТЫ.** Чым больш вы будзеце працаваць, тым больш павагі ўбачыце ў вачах калег. Не бойцеся заставацца па вечарах у офісе або прыходзіць крыху раней – усю працу залічаць.



**РАК.** Нечаканая вестка парушыць звыклую плынь жыцця. Не палохайцеся перамен: калі паглядзець на іх пад патрэбным ракурсам, яны прыйдуцца вам вельмі дарэчы. Прысвяціце час сябрам.



**ЛЕЎ.** У апошні час вы мала ўвагі надавалі сабе. Займіцеся ўласным здароўем – тады і летні настрой з'явіцца. На гэтым тыдні не рэкамендуецца праводзіць буйныя грашовыя аперацыі. Наадварот, цяпер лепш збіраць грошы, а не марнаваць.



**ДЗЕВА.** Рашэнне руцінных праблем канчаткова ўгоніць у негатыўны стан. Не саромейцеся прасіць аб дапамозе – яна цяпер патрэбная вам, як ніколі. Выконвайце рэжым сну і адпачынку, каб старыя болькі не далі пра сябе ведаць. Самы лепшы адпачынак цяпер – пасіўны, майце гэта на ўвазе.



**ШАЛІ.** На гэтым тыдні зоркі прадказваюць вам буйны прыбытак. Не ўпусціце шанец, калі прапануюць зарабіць. У адносінах з другой паловай будзьце мякчэйшыя, чым звычайна.



**СКАРПІЁН.** Творчы парыў можа захлiснуць вас з галавой! Калі паўстане жаданне зрабіць нешта сваімі рукамі – задумаць рамонт, пачаць новую справу, – абавязкова прыслухайцеся. Менавіта цяпер высокая верагоднасць прыняць правільныя рашэнні.



**СТРАЛЕЦ.** У гэты перыяд прыйдзецца выбіраць паміж сябрамі і каханым. Будзьце тактоўныя, але цвёрдыя – аддайце перавагу другой палавінцы. Бацькам трэба больш уважліва прыслухоўвацца да ўсяго, што кажуць іх дзеці.



**КАЗЯРОГ.** Як вядома, шчасце любіць цішыню. Вось і вы пакуль не расказвайце навакольным аб сваіх поспехах. Знайдзіце ў сабе сілы памірыцца з тымі, з кім былі ў сварцы. І паспрабуйце не нарабіць новых бед, бо настрой можа быць пераменлівы.



**ВАДАЛЕЙ.** Калі вы ўсё яшчэ адзінокія, будзьце гатовыя да сустрэчы з будучым лёсам. У гэты перыяд дазваляецца фліртаваць направа і налева, каб прынц не прайшоў міма. На працы будзьце акуратныя ў выказваннях. Любое няслушнае слова можа быць выкарыстана супраць вас у далейшым.



**РЫБЫ.** У гэты перыяд у вас можа паўстаць непераадольнае жаданне кагосьці раскрытыкаваць, пакрыўдзіць словам. Трымайце сябе ў руках! Душэўную раўнавагу дапаможа падтрымаць гутарка з сяброўкай або прагулка ў адзіноце па парку.

**Эмілія ХВОЯ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 2 | | | 8 | | 5 | 1 | | |
| 5 | 9 | | | 6 | | | | |
| | 4 | | 7 | 9 | | | 2 | |
| | 2 | | 6 | | | | 8 | 7 |
| | | | 1 | 8 | | 9 | 4 | |
| | | | 3 | | | | | 1 |
| | | | | | | 6 | 1 | 3 |
| | | | | | 8 | 7 | | 2 |
| 7 | | | | | 6 | 4 | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

Рэгіянальная газета. Rh.by



# Пяць прычын, чаму вам неабходна падпісацца на «Рэгіянальную газету»

**«Рэгіянальная газета» – адзінае беларускамоўнае недзяржаўнае выданне Павілля. Да 25 чэрвеня вы можаце падпісацца на наша папяровае выданне на другое паўгоддзе. І вось пяць прычын, чаму варта гэта зрабіць:**




1) Менавіта падпіска можа забяспечыць сталае існаванне газеты, яе развіццё, упэўненасць у заўтрашнім дні і жаданне працягваць працу. Цана індывідуальнай падпіскі на месяц – 5,50 рубля. Мы вельмі ўдзячныя кожнаму, хто ашчаджае гэту суму на падтрыманне прэсы, якой вы давяраеце. Менавіта дзякуючы вам мы зможам працягваць працу.

2) Наша газета – выдатны падарунак тым, хто знаходзіцца ў месцах, дзе складана знайсці аб'ектыўную інфармацыю. Вы можаце аформіць падпіску на любога чалавека, чый паштовы адрас ведаеце. Мы ўпэўненыя, што гэты падарунак будзе вельмі дарэчы.

3) Газета – выдатная магчымасць падцягнуць беларускую мову, калі вы хацелі б валодаць ёй больш свабодна. Мы стараемся пісаць так, нібыта размаўляем з вамі.

4) Кожны нумар мы друкуем артыкулы на гістарычную тэму. Гэта могуць быць сапраўдныя адкрыцці пра тое, што адбывалася на зямлі, па якой вы штодзень ходзіце.

5) Мы вельмі зацікаўленыя ў тым, каб наша супольнасць развівалася самым лепшым чынам з усіх магчымых. Таму звяртаем увагу чытачоў на падзеі, якія лічым важнымі, і знаёмім з героямі, пра якіх, на нашу думку, важна ведаць.

## Чытайце праз тыдзень:

**Кажуць, гадаваць дзіця цяжка. А гадаваць дзіця з інваліднасцю яшчэ цяжэй. А як жыць бацькам, якія гадуюць траіх, двое з якіх маюць інваліднасць?**

## 12 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўднёва-заходні, 3 м/с




Паводле rp5.by.

## ПРОСТА АНЕКДОТ

***

У мяне такое адчуванне, што калі я памру, жонка падыдзе да труны і скажа: «Знарок памёр, каб нічога не рабіць».

***

– Тата, мне падаецца, ты любіў піва больш, чым нас.

– Не кажы лухты, Піваслаў.

***

Колькі часу патрабуе мыццё бялізны? Загрузіць у пральную машынку – пяць хвілін, цыкл мыцця – ад 30 хвілін да дзвюх гадзін, выгрузіць з машыны і павесіць бялізну на сушылку – 20 хвілін, зняць з сушылкі і скласці ў шафу – сем-дзесяць дзён.

***

– Ваша дзіця ў нас.

– Якія вашы патрабаванні?

– Вы – нармальныя? Садок хутка зачыняецца. Забірайце сваё дзіця!

***

– Сынок, ты карміў ката, калі мяне не было дома?

– Так. З ім усё добра.

– А рыбак?

– Э-э-э. Гэта быў не просты выбар.

***

– Ты навошта мяне з сяброў у «Аднакласніках» выдаліла?

– Бо ты мяне бесіш!

– А нічога што мы жанатыя?

***

Сын паталагаанатама назаўсёды адвучыў класнага кіраўніка вымаўляць фразу: «А галаву ты дома на забыў?»

***

Рабіў з сынам урокі. Горш толькі з жонкай шпалеры клеіць.

***

Якая я малайчына! Тры салаты, кілаграм пельменяў і нават торцік. Усё да шасці паспела... З'есці.

***

У маёй бабулі да гэтага часу ляжыць у кладоўцы відэамагнітафон «Соні», які яна абяцала падарыць мне на вяселле.

***

– Тата, ну чаму ты думаеш, што калі я была на выпускным, то абавязкова піла?

– Я мама.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

# Каго з выканаўцаў вы хочаце пабачыць на фестывалі беларускай песні і паэзіі?

«Рэгіянальная газета» запыталася ў маладзечанцаў, каго б з выканаўцаў яны хацелі пачуць на сцэне Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі. Нагадаем, што фестываль пройдзе 11-13 чэрвеня ў Маладзечне. 11 чэрвеня адбудзецца ўрачыстае адкрыццё, 12-га – гала-канцэрт, а закрыццё фестывалю пройдзе ў нядзелю.



**Кацярына:**
– Дзмітрыя Калдуна.



**Наталля:**
– На маю думку, святы патрэбныя тады, калі ў дзяржаве ўсё добра і ўсім добра жывецца. Усе такія святкаванні выцягваюць грошы, якіх няшмат. Лепш бы завод пабудавалі і далі магчымасць людзям зарабіць. У нас так шмат у горадзе месцаў, дзе іх можна патраціць, і так мала месцаў, дзе іх зарабіць.



**Анастасія:**
– Я не хаджу на фестываль, але, магчыма, на NaviBand схадзіла б.



**Іван:**
– Гурт Thirty Seconds to Mars альбо Bullet For My Valentine. А лепш Міхалка запрасіць ці Naviband.



**Алена:**
– Я ў дэкрэце, таму ўвогуле не пайду.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№24 (1363) 11.06.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 974. Падпісана ў друк у 9.00 10.06.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.